Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 25 (4723) 28 чэрвеня 2013 г.

## Пункцірам

✔ 20 чэрвеня Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ «Аб узнагароджанні дзяржаўнымі ўзнагародамі». Ордэнам Францыска Скарыны ўганараваны мастак-жывапісец, член Беларускага саюза мастакоў Віктар Грамыка, медалём Францыска Скарыны — старшыня савета грамадскага аб'яднання «Беларускі фонд культуры» Уладзімір Гілеп. Ганаровае званне «Народны артыст Беларусі» прысвоена артысту-вакалісту (салісту) — вядучаму майстру сцэны Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь Васілю Кавальчуку. У ліку ўганараваных званнем «Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь» — артыст-вакаліст, вядучы майстар сцэны заслужанага калектыву «Нацыянальны акадэмічны аркестр сімфанічнай і эстраднай музыкі Рэспублікі Беларусь» Наталля Тамела. Званнем «Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь» ўганараваны мастак-жывапісец, член Беларускага саюза мастакоў Уладзімір Гардзеенка.

✔ Дванаццаць харавых калектываў удзельнічае ў конкурснай праграме XX Міжнароднага фестывалю духоўнай музыкі «Магутны Божа», які праходзіць 24 — 28 чэрвеня ў Магілёве. У конкурснай праграме спаборнічаюць творчыя калектывы з трох краін: Беларусі, Расіі і Германіі. Усяго ў музычным форуме задзейнічана больш як тысяча ўдзельнікаў з 15 краін.

✔ Праект «Культурныя сталіцы Садружнасці» знаёміць з традыцыямі рэгіянальных гарадоў і раскрывае іх патэнцыял. Такое меркаванне выказала старшыня Савета па культурным супрацоўніцтве СНД, міністр культуры Арменіі Асмік Пагасян. Міністр лічыць важкім узаемадзеянне беларускага Магілёва і армянскага Гюмры — культурных сталіц СНД 2013 года.

✔ Інтэрактыўная экспазіцыя з'явіцца ў Нацыянальным гісторыка-культурным музеі-запаведніку «Нясвіж». У Бельгіі праведзены перамовы з партнёрам, які гатовы зрабіць пад ключ «Легенды Нясвіжа», «12 апосталаў». Гэта прыватная кампанія, якая займаецца шклом з 1826 года. Яна паставіла свае вітрыны ў 1200 музеяў, уключаючы Эрмітаж і Луўр.

✔ Знятая пры ўдзеле кінастудый «Беларусьфільм» і «Ленфільм» карціна «Роля» ўступіла ў барацьбу на 35-м Маскоўскім міжнародным кінафестывалі. Яна прадстаўленая на асноўным фестывальным конкурсе, у якім удзельнічае 16 карцін. Кінафестываль праходзіць з 20 па 29 чэрвеня. Галоўны прыз форуму — «Залаты Святы Георгій».

✔ Літоўскія рамеснікі ўпершыню возьмуць удзел у кірмашы народных рамёстваў і культур, які праходзіць у Віцебску ў час «Славянскага базару». Кірмаш будзе працаваць на тэрыторыі культурна-гістарычнага комплексу «Залатое кальцо горада Віцебска «Дзвіна».

✔ Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам народнага артыста рэспублікі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі прафесара Міхаіла Фінберга падарыў Магілёўскай вобласці свята музыкі «Горкі-2013». Правядзенне форуму менавіта ў дзень 26 чэрвеня невыпадковае: горад адзначыў гадавіну вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Падрыхтавала
Ярына РЫТАМІНСКАЯ





Фота Кастуся Дробава



# Купальскі цуд

24 чэрвеня ў парку, празваным у народзе купалаўскім, можна былоназіраць дзіўную карціну. Па-першае, ува ўсю моц гучалі спевы «Песняроў». Па-другое, між дрэў вандравалі паненкі ў народных строях — Купалінкі, а таксама дзяўчаткі са свежасплеценымі вянкамі на светлых галовах. За імі, з азартным бляскам у вачах і фотаапаратамі ў руках, ледзь паспявалі хлопцы. Кожны трывожна ўглядаўся ў зялёную паперку з маршрутам і заданнямі, гучала беларуская мова. А справа ў тым, што Дзяржаўны літаратурны музей імя Янкі Купалы прапанаваў мінчукам гульню «У пошуках папараць-кветкі».

Заканчэнне чытайце на стар. 2 ▶



## Пытанне да творцы

# Ці варта сучаснай літаратуры звяртацца да фальклору?



**Янка Лайкоў, паэт:**

— Фальклор — гэта першавыток айчыннай літаратуры, з яго, па сутнасці, пачалося ўсё. Кожны твор меў канкрэтнага аўтара, перадгісторыю, прататыпы і г. д. Сучасным пісьменнікам фальклорны матэрыял цікавы перш за ўсё ў плане паэзіі, метафорыкі, вобразнасці. У прозе ж пасля Яна Баршчэўскага ніхто так і не здолеў напоўніцу скарыстаць патэнцыял нашага фальклору. А паэты, наадварот, актыўна працавалі з творчай спадчынай народа — пачынаючы ад Багушэвіча і Купалы і заканчваючы Мінкевічам і Сысам. Адзінае — шкада, што часцяком усё гэта спрацоўвала не на карысць іміджу беларускай літаратуры. Адданасць традыцыям паспрыяла фарміраванню памылковага стэрэатыпу пра яе "вясковасць", што, у сваю чаргу, істотна зменшыла чытацкае кола. Цяпер жа — адваротная сітуацыя: новае пакаленне аўтараў, выхаванае на еўрапейскай паэтыцы і эстэтыцы, абазнанае ў сусветнай культуры, часта грэбліва ставіцца да фальклору, нават лічыць «маветонам» пісаць у традыцыйнай стылістыцы. Але, як сведчыць гісторыя, гэта ўсё часовае — паблукаўшы па свеце, чалавек заўсёды вяртаецца на Радзіму, да вытокаў.



**Алесь Шамак, гісторык, міфолаг:**

— У першую чаргу, трэба звяртацца не столькі да фальклору, колькі да міфалогіі. Фальклор — гэта толькі далейшая трансфармацыя. Міфалагічныя вобразы і сюжэты больш глыбокія і ранніх. У кожным стагоддзі ёсць яскравыя творы на міфалагічнай аснове. Так, у старажытнасці — «Слова аб палку Ігаравым». Калі казаць пра Сярэднявечча — выдатны твор Гусоўскага, дзе сплятаюцца хрысціянскі міф і язычніцкі. У XIX стагоддзі — ананімная літаратура, якая ўдала спалучыла беларускую міфалогію і грэчаскую («Тарас на Парнасе»). З аўтараў XX стагоддзя найбольш моцныя міфалагічныя творы ў Максіма Танка. І, канечне ж, творы Барадуліна. Тут міфалогія і класічная, і аўтарская. Мне даспадобы інтэлектуальнае прачытанне міфалогіі. Мала ўвесці ў твор міфалагічны вобраз ці сюжэт — трэба па-мастацку асэнсаваць яго. А гэта не ўсім дадзена.



**Таццяна Песнякевіч, радыёжурналістка, музыказнаўца:**

— Што значыць «варта»? Неабходна! Яна павінна пачынацца з гэтага. І я думаю, што так яно і ёсць, што ўсе добрыя пісьменнікі пачыналіся менавіта з фальклору. Камусьці цікавыя легенды, нехта ахвотна звяртаецца да казак. І ў песнях ёсць пэўныя сюжэты. Перш за ўсё пра каханне, часцей — без узаемнасці. Альбо пра цяжкую долю жанчыны ў сям'і мужа, адносіны нявесткі і свякроўкі. Гэта вечныя сюжэты, актуальныя і сто гадоў таму, і сёння.

У мяне ёсць любімы верш Максіма Танка, які вырас з фальклору. «Закалыхваючы, / Пэўна, стомленая, / Памылілася маці. / Не на верацяно, / А на сэрца маё / Сваю песню / навіла. / Я і сёння асцярожна / З хваляваннем / Разматваю клубок песень, / Каб хаця не парваць / Яе нітку». Геніяльна.

# Рускі кангрэс у перакладзе на беларускую

19 — 23 чэрвеня ў Беларусі адбыўся XV Сусветны кангрэс рускай прэсы. У яго адкрыцці ўзяў удзел Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка, выступіўшы з прамовай, у якой гучаў гонар за захаванне рускай мовы і рускай культурнай спадчыны на нашай зямлі.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

Сусветная асацыяцыя рускай прэсы — уплывовае грамадскае аб'яднанне, у складзе якога больш як 3000 друкаваных і электронных СМІ на рускай мове ў 80 краінах свету. Год ад году лічбы павялічваюцца, нязменнымі застаюцца мэты: захаванне і развіццё рускай мовы і культуры за межамі РФ, кансалідацыя дыяспары, яе сувязь з гістарычнай радзімай — інфармацыйная і духоўная. Тут схаваная, аднак, бездань праблем. Іх і абмяркоўвалі ўдзельнікі кангрэса падчас працоўных сесій.

Вельмі часта мясцовая ўлада даволі жорстка ставіцца да рускай прэсы. «Дзяржаўны нацыяналізм, нянавісць да Расіі, штучнае выцісканне СМІ на рускай мове — у выніку тры чвэрці з іх пайшло пад нож у апошнія гады» (Сяргей Дробад, Малдова). Прыкладна такая ж справа ў Літве і Эстоніі. У Сярэдняй Азіі няма антырускіх праблем, але ідзе моцная барацьба за геапалітычную прастору паміж ЗША, Кітаем і Расіяй, барацьба, у якой Расія — найменш актыўная. Адсюль — памяншэнне накладаў рускамоўнай прэсы, зніжэнне яе якасці. «Вырасла новае пакаленне амерыканізаваных журналістаў, павярхоўных і ангажаваных» (Святлана Красільнікава, Кыргызстан). Паводле Сяргея Харчанкі («Костанайские новости»), «там, дзе мае месца супрацьстаянне мясцовай і рускай моў, Злучаныя Штаты — тут як тут. У выніку замест арганічнага двухмоўя — штучнае трохмоўе».

Асаблівая ўвага — да моладзі, якая нарадзілася за межамі Расіі. Улічваючы не звыклы фармат чытання, інтэрнэт і сацыяльныя сеткі, варта дбаць пра якасць і змястоўнасць кантэнту — дзеля таго каб ён выконваў ролю духоўнай (а не толькі міжасобаснай, прыватнай) сувязі з Радзімай. Асабліва гэта датычыць унукаў расійскіх эмігрантаў: калі дзеці — пераважна двухмоўныя, то «трэцяе пакаленне» можа быць цалкам асіміляваным іншай культурай.

Дарэчы, тэма электронных СМІ была не апошняй на форуме. Нечакана намалявалася перспектыва: не толькі неўміручасць, але, у пэўным кантэксце, і прыярытэт традыцыйных выданняў. «Друкаваныя СМІ, відавочна, здаюць рубяжы, але застанецца аналітычнае друкаванае слова. Гэта варта ўлічваць пры падрыхтоўцы журналісцкіх кадраў», — адзначыў Сяргей Харчанка.



Удзельнікі кангрэса на экскурсіі па Нясвіжскім замку.

Зразумела, Кангрэс — пляцоўка дзеля абмеркавання шляхоў аптымізацыі дзейнасці рускай прэсы ў краінах дыяспары. Паўстае і пытанне фінансавых сродкаў. Адно з магчымых рашэнняў — рэкламнае супрацоўніцтва з мясцовымі кампаніямі, якія жадалі б выйсці на расійскі рынак. Такая практыка магла б ажыццяўляцца і «наадварот»: «Калі мы жадаем, каб у свеце існавалі рускія газеты, расійская дзяржава павінна стымуляваць свой бізнес да супрацоўніцтва з намі» (Інга Карава, Грэцыя). Прагучала прапанова стварыць асобную секцыю рускамоўнай прэсы ў краінах СНД, таму што сітуацыя тут істотна адрозніваецца ў пазітыўны бок.

Кангрэс, які ладзіць сваю працу ў розных краінах, — штосьці накшталт прэс-тура сусветнай прэсы. Прэс-туры расійскіх СМІ па Беларусі сталі ўжо звыклымі, сусветны ж фармат такога маштабу мае месца, бадай, упершыню. Беларускіх журналістаў, зразумела, цікавілі ўражанні ўдзельнікаў кангрэса і іх стаўленне да нашай краіны. Ігар Нікіцін (ЗША): «Руская СМІ ў іншых краінах часцей за ўсё ангажаваныя іх палітыкай: негатыўны імідж Беларусі пранікае і ў іх. Галоўны вынік нашай прысутнасці тут — раскрыццё нашых сэрцаў і душ насустрач Беларусі ў адказ на яе адкрытасць».

# «Апантаны працай чалавек»

**Анастасія СІНЮКОВІЧ**

Значнай падзеяй для горада Лагойска на мінулым тыдні стала сустрэча з вядомым беларускім пісьменнікам, ураджэнцам лагойскай зямлі Сяргеем Давідовічам. Сустрэча была падрыхтавана супрацоўнікамі цэнтральнай бібліятэкі г. Лагойска і прысвячалася прэзентацыі новай кнігі паэзіі «У віры падзей». Мерапрыемства аб'яднала зацікаўленых творчасцю земляка лагайчан, калег і блізкіх сяброў пісьменніка. Сярод гасцей — Мікалай Чаргінец, Міхась Пазнякоў, Алесь Марціновіч, Павел Саковіч, Мікола Шабовіч, Ліліяна Анцух, Галія Фатыхава. З выхадам новай кнігі аўтара павіншавалі і прадстаўнікі ўлады: начальнік галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы Мінаблвыканкама Руслан Трухан і намеснік старшыні Лагойскага райвыканкама па сацыяльнай сферы Алена Дзікавіцкая.

Госці жартавалі і казалі цёплыя словы ў адрас віноўніка ўрачыстасці. І нездарма... Як зазначылі госці, акрамя выдатнага паэтычнага таленту Сяргей Фёдаравіч валодае сакрэтамі жывапісу. Здзіўляе вялікая колькасць карцін, створаных мастаком за неверагодна кароткі час, і іх тэматычная разнастайнасць. Сяргей Давідовіч з'яўляецца аўтарам сцэнарыя да кінакамедыі «Свежына з салютам», знятага на кінастудыі «Беларусьфільм». З благаславення мітрапаліта Філарэта Сяргей Давідовіч распісаў купал храма святых апосталаў Пятра і Паўла ў вёсцы Жукаўка Мінскага раёна. За гэты творча-духоўны подзвіг ён быў узнагароджаны Беларускай Праваслаўнай Царквой медалём святціцеля Кірылы Тураўскага. Прастора папулярнасці, завяваная гэтым чалавекам, вялікая. Як мастака яго добра ведаюць і цэняць не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі: імя яго ўключана ў сусветную энцыклапедыю «Мастакі ўсіх часоў і народаў».

Увазе прысутных была прапанавана кніжная выстаўка «Паэт. Мастак. Грамадзянін», падрыхтаваная супрацоўнікамі цэнтральнай раённай бібліятэкі. На ёй былі прадстаўлены ранейшыя выданні Сяргея Давідовіча, артыкулы і кнігі пра жыццё і творчасць пісьменніка, а таксама яго новы твор.

# Сэрцам адданыя Радзіме

**Таццяна ЛЫЧАГІНА**

Выданні беларускага замежжа складаюць каштоўны пласт культурнай спадчыны нашай краіны. Суайчыннікі зрабілі дзейсны ўклад у развіццё і папулярызацыю беларускай культуры і навукі ў свеце, паўплывалі на гісторыю чалавецтва. Пра гэта яшчэ раз сведчаць кнігі, якія прадстаўлены на выстаўцы «Сэрцам адданыя Беларусі», што экспануецца ў Прэзідэнцкай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь з 25.06.2013 г.

Многія выданні выйшлі з друку ў суседніх дзяржавах, дзе жывуць этнічныя беларусы, а некаторыя ўбачылі свет на далёкіх кантынентах, дзе таксама ёсць беларускія дыяспары. Шмат з прадстаўленых кніг з-за абмежаванасці тыражу ці аддаленасці месца выдання з'яўляюцца ў Беларусі бібліяграфічнай рэдкасцю.

Рэтраспектыва выстаўкі дазваляе ў адной экспазіцыйнай прасторы ўбачыць кнігі на беларускай мове, выдадзеныя ў XX — пач. XXI ст. у Вялікабрытаніі, Германіі, ЗША, Латвіі, Літве, Малдове, Польшчы, Расіі і іншых краінах свету. Навуковыя даследаванні, літаратурныя творы падкрэсліваюць плённую дзейнасць нашых суайчыннікаў за мяжой. Літаратура беларускага замежжа — адметная і яркая старонка, што арганічна ўваходзіць у самабытную беларускую культуру, спрыяе яе веліччы і багаццю.

Усе выданні, прадстаўленыя на выстаўцы, можна замовіць у электронным каталогу праз інтэрнэт або непасрэдна ў нашай бібліятэцы.

Наш адрас: г. Мінск, вул. Савецкая, 11 (Дом Урада, правае крыло).

Выстаўка бясплатная, працуе з 10.00 да 19.00, акрамя суботы і нядзелі, без перапынку на абед.

Для наведвання выстаўкі неабходны чытацкі білет Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь альбо пашпарт (тэл. для даведак — 222-42-90).

# Купальскі цуд

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Удзельнікі прайшлі праз суровыя выпрабаванні: шукалі помнік Купалу і ўзгадвалі, хто яго аўтар; блукалі па экспазіцыі музея з надзеяй натрапіць на правільны адказ; адгадвалі загадкі Купалы; чыталі верш «Явар і каліна» ў стылі рэп; складалі з паперы папараць-кветку. Але самае страшнае — бурымэ. Для пачатку намагаліся ўспомніць, што ж гэта такое. Варыянтаў гучала шмат, што сведчыць пра надзвычайную творчасць мыслення беларуса. «Трава такая». — «А, гэта ж пячэнне». — «Гульня, якой Напалеон забаўляўся ў выгнанні». Урэшце змучаны беларус, мабілізаваўшы ўвесь свой слоўнік роднай і мілагучнай, мусіў бурымэ скласці. Часам экспромты набывалі інквізітарскае адценне: «Настала купальская ноч — хутчэй пад касцёр паскоч». На шчасце, вогнішчаў у парку не палілі. Замест іх у небе палымнелі лазерныя промні.

Калі ж людзі сабраліся каля музея паслухаць спевы «Гуды» і «Горыні», калі яны — спачатку баязліва, а потым гучна і смела — пачалі падпяваць, калі кожны з натоўпу — а гэта больш як сотня чалавек — адкрыў у сабе слова сваіх прадзедаў і адчуў, што яно заўжды было з ім — прынамсі, так гаварылі вочы, — вось тады і адбыўся сапраўдны купальскі цуд.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

# Палеская рабінзанада айчынных творцаў

**Леанід КРЫВАНОС, фота аўтара**



Дзяржаўны камітэт пагранічнай службы і Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі шосты раз зладзілі культурна-асветніцкую літаратурную экспедыцыю на граніцу. Гэтым разам шлях літаратараў Міншчыны ляжаў на Палессе.

Удзел у сустрэчы ўзялі першы сакратар СПБ Г. Пашкоў, намеснік старшыні Мінскага абласнога аддзялення СПБ А. Смалянка, а таксама пісьменнікі П. Жукаў, В. Сабалеўскі ды аўтар гэтых радкоў.

Першая сустрэча адбылася ў Рэчыцы Столінскага раёна, дзе дыслацыруецца аддзел пагранічнай службы «Рэчыца» Пінскага пагранічнага атрада. Пісьменнікі чыталі свае вершы, вытрымкі з нарысаў, напісаных у тым ліку і пасля папярэдніх сустрэч, дзяліліся творчымі планамі, цікавіліся жыццём пагранічнікаў. Сяржанту Івану Шэйчуку за дасягненні ў выкананні службовых абавязкаў у падарунак была ўручана кніга з аўтографам аўтара. А пры канцы сустрэчы Генадзь Пашкоў перадаў намесніку начальніка заставы лейтэнанту Мікалаю Курляку падборку кніг сучасных беларускіх пісьменнікаў. Новымі выданнямі, падоранымі ад СПБ, папоўнілася і бібліятэка пагранічнай заставы «Гарадная» Столінскага раёна, куды творцы завіталі на другі дзень вандроўкі. Тут таксама гучалі вершы і проза, узнагароджваліся выдатнікі службы.

# Армян жывыя абеліскі…

**Максім ЖАЛЕЗІНКА**

*Люблю тебя, Отчизна: сборник произведений писателей Беларуси и Армении / сост. Алесь Бадак. — Минск: Издательский дом «Звязда», 2013. — 256 с. — «Созвучие сердец»).*




Навінка ў серыі «Сугучча сэрцаў», сёлета заснаванай у Выдавецкім доме «Звязда», — «Люблю цябе, Айчына». У зборніку прадстаўлены вершы і апавяданні армянскіх і беларускіх пісьменнікаў. Па традыцыі — тыя творы, якія былі напісаны пасля 1991 года. «Жывыя абеліскі» — так называецца тая частка кнігі, якая знаёміць з армянскімі паэтамі і празаікамі. Творы Араўшата Авакяна, Рубена Аўсепяна, Генрыка Эдаяна, Лявона Хечаяна, Аванеса Грыгарана, Давіда Аванеса, Арцёма Аруцюняна, Эдварда Міліташяна, Врэжа Ісраэляна, Раі Тамразян, Ваагі Грыгаран, Разміка Даваяна, Нарайр Адалян, Гукаса Сіраняна дапамагаюць складзі ўяўленне пра сённяшні дзень армянскай літаратуры. Пра што пішуць паслядоўнікі вялікіх Саят-Новы, Шырванзадэ, Авеціка Ісаакяна, Сільвы Капуцікян, Геворга Эміна?.. «…А чаму ты сам не пабудаваў карабель, не пераплыў праз моры і акіяны, не знайшоў новыя землі? Быў бы хоць маленькі востраў твайго імя», — пытаецца ўнук у свайго дзеда ў апавяданні Рубена Аўсепяна «Самая цёплая краіна». Пошук сябе ў часавай і геаграфічнай прасторы, выяўленне месца чалавека-асобы ў межах грамадства, Айчыны — хіба гэта малая задача для мастака нацыянальнай літаратуры?!

Нельга без хвалявання чытаць лаканічнае апавяданне вершам ці паэтычнае прызнанне ў прозе Давіда Аванеса «Вечны армянін». Гэты твор — спроба адвастрыць тыя надзённыя, актуальныя, балючыя ўяўленні пра свет у самых розных яго праявах. Армянскія пісьменнікі пільна ўглядаюцца ў трывожныя перамены, разважаюць самі і прыцягваюць да разваг чытачоў. Найперш — пра самыя вялікія складанасці ў нацыянальным свеце, у каўказкім суіснаванні, ды і ў сусветным супольніцтве таксама. «Я прадбачу ўжо Судны дзень, / Але імя мне — Арменія, і мяне забіць немагчыма, таму што я — усё, і паўсюль, і я бясконцы…», — піша Давід Аванес.

У своеасаблівы мастацкі дыялог з армянскімі творцамі ўступаюць беларускія літаратары. У кнізе «Люблю цябе, Айчына» вершы і апавяданні Алега Ждана, Юрыя Сапажкова, Алены Паповай, Міколы Маляўкі, Ганада Чарказяна, Казіміра Камейшы, Уладзіміра Ліпскага, Міколы Чарняўскага, Уладзіміра Федасеенкі, Яўгена Хвалея, Сяргея Клімковіча складаюць раздзел «Майго лёсу вытокі». Сам фармат зборніка — прадмет увагі чытачоў і крытыкаў. Можна пасля чытання адной толькі кнігі параўноўваць, разважаць пра шырокія абсягі новых здабыткаў нацыянальных літаратур, а таксама праяўляць да іх далейшую цікаўнасць.

## Прынятыя ў СПБ



**БРЫТУН**
**Анатоль Арцёмавіч**
***Празаік***

Нарадзіўся 7 лістапада 1957 года ў в. Баранцы Жабінкаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію і факультэт грамадскіх прафесій Брэсцкага педагагічнага інстытута. Працуе інспектарам на Брэсцкай мытні.

Піша раманы, аповесці, легенды, якія публікуюцца у рэспубліканскіх перыядычных выданнях і літаратурных часопісах «Полымя», «Маладосць», «Бярозка» і інш. У 2012 годзе выйшаў яго прыгодніцкі раман «Пах мускусу».



**КЛАЧКО**
**Людміла Леанідаўна**
***Паэтэса***

Нарадзілася 21 чэрвеня 1990 года ў г. Барысаве. Скончыла факультэт «Выдавецкая справа і паліграфія» Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта. Працуе ў «Бюро Веритас Бел ЛДД ИООО».

Друкавалася ў часопісах «Новая Немига литературная», «Нёман», у калектыўным зборніку «Маладзік». Ухвалены вершы і часопісам «Наш современник» (Масква). Выйшла кніга вершаў «На пару слов…» (2013) у серыі «Мінскія маладыя галасы».

Лаўрэат Рэспубліканскага конкурсу маладых паэтаў у Брэсце.



**КУЦАЕВА**
**Наталія Георгіеўна**
***Публіцыст, празаік***

Нарадзілася 30 кастрычніка 1973 года ў г. Лейпцыгу (Германія). Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працуе вядучым рэдактарам у Выдавецтве Беларускага Экзархата.

Аўтар кніг: «Евфросиния Полоцкая» (2007), «Святой благоверный великий князь Александр Невский» (2008), «Преподобная Евфросиния Полоцкая (2010). Складальнік зборнікаў апавяданняў, казак і вершаў для дзяцей: «Детям о любви», «Детям о Пасхе», «Детям о молитве», «Детям о слове», «Детям о счастье» (у суаўтарстве), выдадзеных у 2001 і 2012 гг.

Узнагароджана ганаровымі граматамі, а таксама медалём прападобнай Еўфрасінні Полацкай.



**СМІРНОЎ**
**Мікалай Іванавіч**
***Публіцыст, празаік***

Нарадзіўся 5 верасня 1930 года ў г. Ленінградзе. Скончыў Ленінградскае вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча. Служыў ва Узброеных Сілах СССР. У адстаўцы. Працуе старшым рэферэнтам групы інфармацыі і грамадскіх сувязей ДУА «Інстытут нацыянальнай бяспекі Рэспублікі Беларусь».

Аўтар кніг «Мы помним алые погоны» (1998), «Василий Мудрый» (2009), «Секретный узел. Тайная война в Беларуси (1939 — 1944)» (2010), «Прощай «империя», или Из жизни контрразведки» (2012), «С именем Александра Суворова» (2011), «Единая с Отечеством судьба» (2012).

Аўтар сцэнарыяў дакументальных фільмаў, якія дэманстраваліся на беларускіх, расійскіх тэлеканалах і тэлеканалах СНД: «Василий Корж. Уроки жизни» (2009), «Тайная война» (2010), «Война спецслужб. Курсанты особого назначения» — праект «Обратный отсчет» — АНТ (2012).

# «Гарадоцкі Парнас»

**Наталля САВЕТНАЯ**

**На Гарадоцкай зямлі, дзе нарадзіўся Канстанцін Вераніцын, знакаміты аўтар паэмы «Тарас на Парнасе», у пяты раз адзначылі свята «Гарадоцкі Парнас».**

У Гарадку Віцебскай вобласці і раней народ любіў, ды і цяпер не адмовіцца вострым перакінуцца слоўцам.

З крыніцы роднай мовы чэрпалі шматлікія нашы таленавітыя земляки: педагог і пісьменнік Юзэф Маралеўскі, публіцыст, рэдактар, літаратурны крытык Ангел Багдановіч, перакладчык, аўтар гумарыстычных твораў Ігнат Бяляеў, Мікалай Воранаў, Генадзь Шмань, Уладзімір Хазанскі ды іншыя. Паэт Генадзь Пашкоў, першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі, таксама мае карані ў Гарадку. Тут нарадзілася яго матуля.

На свята у Гарадок прыехаў і наш зямляк, беларускі паэт ды перакладчык Уладзімір Скарынкін.

На «Гарадоцкім Парнасе» гучалі аўтарскія і народныя песні, выступалі фальклорныя калектывы горада, раёна, а таксама Полацка і Віцебска. Аднак галоўным госцем было паэтычнае слова.

У скверы каля фантана гучалі прамовы паэтэсы, старшыні Віцебскага аддзялення СПБ Тамары Красновай-Гусачэнкі, паэта і празаіка Барыса Беляжэнкі, перакладчыка паэмы «Тарас на Парнасе» на нямецкую мову Уладзіміра Папковіча.

Нарадзілася ідэя — аб'явіць да наступнага свята конкурс на лепшы паэтычна-гумарыстычны твор пра сучаснага Тараса, на лепшае сачыненне пра паэму «Тарас на Парнасе» сярод школьнікаў і на лепшы дзіцячы малюнак на гэтую тэму. Творы дасылаць на адрас раённай бібліятэкі г. Гарадка Віцебскай вобласці да 1 красавіка 2014 г.

# Юбілярка з-за акіяна

**Павел КУЗЬМІЧ**

У Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна адбыўся юбілейны творчы вечар члена Саюза пісьменнікаў Беларусі і Саюза пісьменнікаў Расіі паэтэсы Іны Санінай (Маіны Іванаўны Арцішэўскай-Ерусалімчык).

Маіна Іванаўна завітала ў родны Мінск з далёкага Лос-Анжэлеса. У ЗША яна, архітэктар, кандыдат навук, былая выкладчыца Беларускага політэхнічнага інстытута, жыве ўжо больш як 30 гадоў. Але не забывае Беларусь, сваіх сяброў, піша вершы, у якіх прызнаецца ў любові да роднай старонкі, выдае кнігі, бярэ актыўны ўдзел у грамадскім жыцці беларуска-рускага замежжа ў Каліфорніі.

На сустрэчу з паэтэсай завіталі яе сябры, сталічныя пісьменнікі. Старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ, паэт Міхась Пазнякоў прывітаў юбілярку, уручыў ёй Ганаровую грамату СПБ, а таксама памятныя падарункі з айчыннай сімволікай.

Прачула выступала, чытала вершы, адказвала на пытанні слухачоў сама госця. У маладыя гады Маіна Іванаўна была вядомая ў Мінску як оперная спявачка. Госці імпрэзы мелі магчымасць праслухаць у запісе некалькі музычных твораў у выкананні шаноўнай юбіляркі.

# Купалаўскія дні

**Рыта СТАХ**

Сёння а 16-й гадзіне на Вайсковых могілках у Мінску, у дзень, калі спаўняецца 71-я гадавіна смерці народнага паэта Беларусі Янкі Купалы, Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы ладзіць вечар памяці «Жальбіны». Узяць удзел у мерапрыеместве і аддаць даніну павагі сапраўднаму сыну зямлі беларускай запрашаюцца аматары творчасці Песняра. Сёння ж у 18.30 пачнецца імша ў Архікатэдральным касцёле Найсвяцейшай Панны Марыі. Зрэшты, пры канцы чэрвеня — у пачатку ліпеня ў краіне шырока прэзентуецца праграма Купалаўскіх дзён.

4 ліпеня адбудзецца ўрачыстае адкрыццё выстаўкі «Былое ў думках ускрашаць...» і прэзентацыя хранікальна-дакументальнага фільма «Купала і Колас — два яблыкі на адной галінцы» ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. 7 ліпеня ў парку імя Янкі Купалы адбудзецца традыцыйны музычна-літаратурны зварот да творчасці класіка «Палымянае слова паэта» і ўскладанне кветак да помніка Песняру. Завершыць цыкл сустрэч свята паэзіі, песні і народных рамёстваў «З адною думкаю аб шчасці Беларусі» ў Купалаўскім мемарыяльным запаведніку «Вязынка» на Маладзечаншчыне.

## Абрысы

Адкрылася пасля рамонту кнігарня «Кругозор» філіяла ААТ «Белкніга» ў Вілейцы. У жніўні краме спаўняецца 65 год, гэта адзіная кнігарня ў горадзе. Яе асартымент універсальны, налічвае каля 15 тысяч назваў кніг, брашур, іншай друкаванай прадукцыі. Шырока прадстаўлены выданні беларускіх выдавецтваў, мастацкая, дзіцячая і метадычная літаратура, выданні для адпачынку, карты, атласы. Пасля рамонту гандлёвая плошча крамы павялічылася, а таксама набыла новае абсталяванне. Кнігарня працуе штодня з 10 да 19 гадзін, у суботу і нядзелю — з 10 да 14 гадзін.

Часопіс сатыры і гумару «Вожык» РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» адкрыў у кінатэатры «Кастрычнік» выстаўку пад назвай «Гумарыстычны мікс». На ёй прадстаўлены работы вядучых мастакоў-карыкатурыстаў часопіса Міколы Гіргеля, Аляксандра Каршакевіча, Алега Папова, Алега Карповіча і іншых, а таксама здымкі фотакарэспандэнта газеты «Звязда» Анатоля Клешчука. Дагэтуль выстаўкі карыкатур, гумарыстычных малюнкаў, шаржаў праходзілі ў кінатэатрах «Салют», «Дом кіно», «Беларусь». Паглядзець і пасмяяцца можна да канца ліпеня.

Дэлегацыя Самарскай абласной грамадскай арганізацыі «Руска-Беларускае Братэрства-2000» возьме ўдзел у ХІ Міжнародным фестывалі народнай творчасці «Вянок дружбы» ў рамках святкавання дня горада Бабруйска і святочных мерапрыемствах у Мінску, прысвечаных дзяржаўнаму святу — Дню Незалежнасці Рэспублікі Беларусь. 25 чэрвеня ад Дома дружбы народаў Самарскай вобласці адправіўся аўтобус у Рэспубліку Беларусь. Арганізатары паездкі — Самарская абласная грамадская арганізацыя «Руска-Беларускае Братэрства-2000» пры падтрымцы адміністрацыі губернатара Самарскай вобласці і Дома дружбы народаў.

Прэм'ера спектакля «Апошні» па п'есе Васіля Ткачова адбылася ў Магілёўскім драматычным тэатры. У пастаноўцы занятыя вядучыя акцёры старэйшага драматычнага калектыву нашай краіны, рэжысёр Аляксандр Палкін. Галоўную ролю — апошняга франтавіка Асокіна — сыграў заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Рыгор Белацаркоўскі. Прэм'ера прайшла з вялікім поспехам. Земляні драматурга — жыхары Журавіцкага сельсавета Рагачоўскага раёна — завіталі ў Магілёў на прэм'еру спектакля.

# На прасвет

Марыя АЗЯРЭЦКАЯ

Напэўна, сярод іншага быць паэтам значыць не ведаць межаў. Прынамсі, геаграфічных. Ігара Шклярэўскага адносяць да «ведамства» рускіх паэтаў, і з гэтым ніхто не спрачаецца, роўна як і з тым, што ніяк не праігнаруеш беларускі кантэкст у яго творчасці і самога Шклярэўскага ў кантэксце беларускай літаратуры.

Гэтай заблытанай фразай мы маем сказаць не столькі тое, што ён нарадзіўся ў Бялынічах, выдаў першыя кнігі ў Мінску і працягваў выдавацца, выступаць у беларускім друку, ужо асталяваўшыся ў Маскве і напісаўшы: «Тревожно мне в городе Минске, / как будто живу без прописки / и книгу мечтаю издать…» Больш істотна тое, што любы ахвотны знойдзе дастаткова матэрыялу, каб даследаваць «беларускі тэкст» Ігара Шклярэўскага. Тое, што «Паромам з Беларусі ў Расію» ён экспартуе рускамоўнаму чытачу выдатныя пераклады «Песні пра зубра» Міколы Гусоўскага, вершаў Янкі Купалы, Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі, Максіма Лужаніна, Рыгора Барадуліна, Аляксея Пысіна, Сяргея Грахоўскага…

Ігар Шклярэўскі схільны рабіць жыццё паэзіяй, у сэнсе пражываць яго так, што выпадковыя факты біяграфіі ўражваюць сваёй нетрывіяльнасцю, адпаведнасцю званню «паэт». Творчасць знаходзіць працяг у жыцці і наадварот. «Первая книга вышла в Минске. Я написал её по дороге от города до завода. Пока шёл — сочинял. <…> Шёл по дощатым тротуарам, доски пружинили, орали грачи…» У зборніку «Я іду!» сапраўды вельмі адчуваецца гэты рытм — рытм спружыністай, бадзёрай хады маладога чалавека. Яго раннія вершы рухомыя пачуццём, эмоцыяй. Яны хуткія, як хваля: падымаецца, нясецца, разбіваецца аб бераг. Яны дзёрзкія, задзірыстыя, знарок непрычасаныя:

*Я не шкурник, и своею шкурой*
*Я не собираюсь торговать.*
*Просто шкура новая, и сдуру*
*Неохота мне её терять!*

Максімалізм, адкрытасць свету, жыццярадаснасць (па сутнасці, уся кніга «Я іду!» пра тое, што жыццё — гэта шчасце і што няма слова «сумна»), насмешлівая пагарда ў дачыненні да мяшчанства, подласці, дробязнасці — у ранняй паэзіі Ігара Шклярэўскага ўсё тое, што ўласціва маладосці. І — нечакана — уменне бачыць іншае: «Старушка в землю просится клюкой».

Паэтычны зрок Ігара Шклярэўскага — увогуле цікавая рэч. З аднаго боку, ён фатаграфічны. У лірычным вершы пра каханне ў кадр абавязкова трапіць фанерная будка старога яхт-клуба ці паношаны чаравік, у іншым аўтар згадае і дакладную колькасць прадметаў, і дакладны час падзеі; захлынаючыся радасцю быцця, не выпусціць з поля зроку абшарпаную лаўку, вузкакалейку. Тое, што часта падрэтушоўваецца, каб не псавала пейзаж, тое, што звычайна лічыцца непрыгожым, у яго творах застаецца раўнапраўнай часткай краявіду, свету. Паэт імкнецца да рэчыўнасці: «…написать книгу лучше прежней, чтобы совсем пропала условность, чтобы слово «дятел» клювом пробило бумагу, слово «вода» затопило лист, а слово «огонь» — подожгло». І мае плён. Прынамсі, вершы Ігара Шклярэўскага выклікаюць жаданне неадкладна пакінуць офісы, кабінеты, умоўнасці і ўцячы ў яго пейзажы, разглядзець велічнага, чароўнага махаона. Не перавяліся ж яны з часоў дзяцінства! Дык чаму іх нідзе не бачна, дзе яны падзеліся, дзе той дзіцячы зрок, уважлівы і да панарамы, і да драбнічак, штрыхоў, дэталей? Дзе зрок, як у Шклярэўскага? З аднаго боку, фатаграфічны, з іншага — любую рэч здольны ўбачыць на прасвет:

*Пустеет класс, и в тишине*
*техничка тряпкой протирает*
*звезду вечернюю в окне.*

Калі чытаць яго зборнікі ў храналагічнай паслядоўнасці, то можна не толькі прасачыць паступовую змену тэмпу, па шчырасці, зразумелую і прадказальную: вершы-хвалі ў юнацтве, ціхая плынь — у сталасці, жыццё ўжо не п'ецца нагбом, кожная хвіліна смакуецца, расцягваецца. Можна прачытаць увогуле гісторыю чалавечага жыцця. Не аўтабіяграфію, а своеасаблівы летапіс шасцідзясятнікаў (вехі, атмасфера, светапогляд).

Ігар Шклярэўскі як прадстаўнік гэтага пакалення адназначна і бескампрамісна адмяжоўваў тонкі свет паэзіі ад чужога таўстаскурага:

*Собраниям предпочитая ивы,*
*я в руки брал червей, но я брезгливый*
*в таких местах, где исключали — «за».*
*У них глаза, как в ночь Варфоломея,*
*но у меня обычно в это время*
*на поплавке сидела стрекоза.*

Што яшчэ цікава ў паэтыцы Ігара Шклярэўскага, дык гэта тое, што яна не раскладаецца, прынамсі, адчайна гэтаму супрацiўляецца. Ён занадта паважае паэзію, каб пераходзіць у кагорту рамеснікаў. У парадыйным (і нават закрадваецца крамольная думка: ці не самапарадыйным?) вершы «Поэзию не понимал» ён пацвельваецца:

*«Нельзя!» — литконсультант кричал,*
*а стих звенел и трепетал…*

Ён можа будаваць верш ці не цалкам на бедных дзеяслоўных рыфмах, і яны вытрэльваюць або не заўважаюцца, успрымаюцца як адзіна магчымыя ці нават атрымліваюць кампліменты: «звонкі, трывожны дзеяслоў». Гэтыя звонкія дзеясловы насамрэч апраўданыя (наіўна думаць, што перакладчык паэзіі — ювелірная праца — можа быць неахайным у дачыненні да ўласных вершаў), яны — сімптом таго «эпічнага дыхання», якое прыпісваюць Ігару Шклярэўскаму. Ён умее не толькі бачыць прыроду і паказваць яе так, каб вярнуць нам, чытачам, зрок. Ён умее бачыць



чалавека і расказваць яго гісторыю так, каб мы паглядзелі на сябе. Крыху даўжэй, чым звычайна.

«Праліць святло» — гэта пра Шклярэўскага. Канцэнтрацыя сонечных пырскаў, усмешлівасці, цеплыні, любові да людзей і свету ў яго вершах вышэй за сярэдні ўзровень. І гэта яшчэ адна адметнасць яго паэтыкі — перавага светлага над трагічным. «Светлыя вершы» — выраз, які крыху абнасіўся ад частага і непераборлівага выкарыстання. Міжволі задумаешся, што ён значыць і ці значыць нешта ўвогуле. Але вось сакрэт доўгажыхарства ад Ігара Шклярэўскага: засынаць шчаслівым, з усмешкай і недзе на сятчатцы вока трымаць тое, што больш за ўсё любіш. На сятчатцы вока можна пасяліць лугі, росы, стракоз у пяцьдзясят карат і якія заўгодна вобразы Ігара Шклярэўскага. Пасяліць і ўсміхацца. Значыць, светлыя.

# Вырвацца з д'яблавых рук

**Творчую эвалюцыю Таісы Супрановіч можна прасачыць па яе першых кнігах «Мужчыны і жанчыны» (1999) і «Матчын зарок» (2003), а таксама па пазнейшых аповесцях «Пракрустава ложа»,«Халодны дзень і цёплы вечар». У іх жа выразна акрэсленыя параметры яе індывідуальнага стылю.**

Аляксей РАГУЛЯ

Жыццятворная энергія повязі з людзьмі, з маленства блізкімі і зразумелымі, у творах часам вырываецца на паверхню: «*Мала ўжо хто застаўся з аднавяскоўцаў, і я люблю іх за тое, што жывуць. Радуюся, што яшчэ маюць неблагое здароўе*». У такім скупым на словы лірызме выказана не толькі прызнанне, але і творчае крэда аўтаркі. Галоўным аб'ектам рэфлексіі яна абірае герояў, якія валодаюць *пластамі народнай жыццяздольнасці*, што абараняюць асобу ад нігілізму.

Нельга, аднак, лічыць, што вёска ў прозе Таісы Супрановіч з'яўляецца ідыліяй, увасабленнем чысціні і маральнасці. Духоўны і інтэлектуальны досвед сялянства — гэта навука перадолення зла, нежыці, здаўна азначанай персаніфікаваным вобразам *Наўя*, навука сцвярджэння светлай *Явы*. Фальклорныя максімы сярэдняга Панямоння — арганічны кампанент наратыву ў апавяданнях і аповесцях Таісы Супрановіч. У іх на малой плошчы сканцэнтраваны вялікі духоўны досвед пераадолення пагрозы скanання.

Дарэчы будзе прыгадаць выказванне Генрыха Далідовіча: «*Таіса Супрановіч, трэба прызнаць шчыра, умее па-пісьменніцку рэалізаваць славутае чорнаўскае, што чалавек — гэта цэлы свет, найперш здольнасцю спалучыць у паказе жыцця герояў мінулае і сённяшняе, грамадскае і асабістае, дабро і зло, а праз усё гэта ўсё ў выніку ў яе выходзіць каларытная, ёмістая проза*».

Так, пісьменніца змагла адразу заняць у творчасці пазіцыю, зручную для таго, каб выразна асвяціць далёкія гарызонты і цёмныя закуткі беларускай гісторыі і беларускай душы. Проза Таісы Супрановіч — гэта пошукі і знаходкі крыніц таго *цяпла на першацвет*, якое дае сілу першым парасткам новага бачання і разумення саміх сябе ў свеце. Пунктам адліку з'яўляюцца першапачынальнікі з міфалагемы *Яна* і *Ён* — Мілавіца і Цікаўны, Разумная дачка і Задумны. Гэтыя канцэптуальныя персанажы — вечныя ў беларускай культуры сімвалы радасці жыцця, яго сэнсу і ўзнаўлення.

Пісьменніца мэтанакіравана выкрывае хлусню квазівучоных пра «апасіянарнасць», млявасць беларускага менталітэту. У мастацкай прасторы яе прозы дамінуюць ярка выражаныя індывідуальнасці, у якіх па-свойму праяўляецца стваральная энергія нацыянальнага духу — усвядомленая патрэба «*адолець гэты нялёгкі шлях праз пустыню*». А для гэтага «*самі ў сабе павінны знайсці сілу, розум, цярпенне*» («Ванда»).

Выдатны беларускі філосаф і эстэтык Мікалай Крукоўскі ў даследаванні «Бляск і трагедыя ідэалу» (2004) паказаў агульную карціну заняпаду ў сучасным свеце ідэалаў людскасці, адлюстраваных у «вялікіх нарацыях» у эпоху Рэнесансу і Асветы. Сучасная без берагоў рэдукцыя духоўнасці вядзе да сцвярджэння новай, па сутнасці постчалавечай цывілізацыі. У прозе Таісы Супрановіч паказана, як нарастае вал здзічэння і выраджэння ў атмасферы казённага афіцыёзу.

У апавяданнях пра расчалавечванне асобы яна не надае асаблівай увагі сацыяльнай першапрычыне гэтай з'явы. Гэты этап грунтоўна асэнсаваны ў беларускім празаічным эпасе мінулых дзесяцігоддзяў. Пісьменніцу больш цікавіць сучасны стан і дзеяздольнасць грамады. Яна паказала, што вынікі духоўнай рэдукцыі аднолькавыя на сацыяльным дне і на вышэйшых паверхах бюракратычнай сістэмы.

Таіса Супрановіч хоць і запаволена, але няўхільна ідзе да адлюстравання крыніц самаруху сучаснага беларускага этнасу, яго стыхійнай кансалідацыі. У яе творах паказана не ўсвядомленая яшчэ прага духоўнага вызвалення. Таіса Супрановіч разумее небяспеку дэфармацыі беларускага духу ва ўмовах нацыянальнага нігілізму. Усведамленне таго, што ў Беларусі большасць інтэлігенцыі забыла пра свой народ *няспачаны доўг векавы* (Я. Колас), скіроўвае творчую энергію пісьменніцы на трансфармацыю *ёмістых* формаў навелы ў разгалінаваныя формы аповесці-балады, а ў перспектыве вымалёўваецца ўжо мікрараман — вышэйшая форма сінтэзу. Панарамная карціна супрацьстаяння беларускага духу разбуральнай сіле сумніўных навацый створана ў мікрарамане «Пракрустава ложа».

Мастацкі канцэпт *матчын зарок* — арыгінальнае адкрыццё Таісы Супрановіч. У многіх творах пісьменніцы паказана зло, якое разбурае, здавалася б, непахісную каштоўнасць мацярынства. Матывы *матчынай душы, роднага дому* разгортваюцца на фоне рэалістычнага бачання трагічных вынікаў працяглага падзення ў бездань *ваўчынай ямы* ў цэнтры еўрапейскай цывілізацыі. Творчыя намаганні пісьменніцы скіраваны не на адлюстраванне жахаў чыстца ці пекла, а на сцвярджэнне здольнасці асобы перамагаць зло, якое ўкаранілася ў штодзённым побыце.

Заснаваная на жыццёвым матэрыяле аповесць «Ванда» непрыкметна набліжаецца да міфа ці казкі. У структуры аповесці чуецца водгулле даўніны, бачыцца трансфармаваная традыцыя, замацаваная ў жанравых формах міфа, казкі, жыція, хаджэння па пакутах — традыцыя вызвалення з кіпцюроў д'ябла. Змаганне Ванды за чалавечы лёс свайго сына міжволі нагадвае карціну змагання юнай маці за вяртанне сыну належнага месца ў грамадстве ў выдатным творы індыйскага Рэнесансу V ст. — п'есе Калідаса «Адшуканая па пярсцёнку Шакунтала».

У прозе Таісы Супрановіч духоўнай каштоўнасцю становяцца вобразы жывых людзей, пераважна з Наваградчыны. У апавяданні «Хутаранка» такое душэўнае цяпло і святло сыходзіць ад бабкі Гэлі. У рэальным свеце людзі прывыклі жыць «крэнтамімэнтамі». Гэлька ж заўсёды і з усімі застаецца гаваркой і шчырай. Шчаслівае яе жыццё з такім жа ціхім і шчырым Сашам, «васточнікам» з Віцебшчыны, было ўсяго толькі імгненнем, але памяць пра гэты міг маладосці сагравае Гэльчыну душу праз гады. Прагныя і чэрствыя дочкі ўжо пры жывой маці падрыхтавалі для яе магілу і помнік з надпісам і фатаграфіяй. І не саромеюцца дзяліць небагаты яе скарб. Але Гэлька, устаўшы аднойчы з-пад свайго крыжа, нібы вярнулася з таго свету. Перапалох наведвальнікаў стаў прычынай вялікага вэрхалу і вясёлага смеху на ўсё наваколле. Містэрыя і карнавал у народнай культуры ўзаемна абумоўлены.

Таіса Супрановіч адлюстроўвае характэрную тэндэнцыю сучаснасці. У Беларусі сёння фарміруецца свядомасць грамады, якая не хоча жыць паводле чужога раскладу, у атмасферы адчужэння і духоўнай несвабоды. Матчын зарок гуртуе людзей у вялікую радзіну, дае моц асобе і супольнасці, кансалідуе этнас.

Пісьменніца вяртае ў прозу культ духоўнай чысціні. Карціны сучаснага быцця ў творах Таісы Супрановіч прасякнутыя глыбокім роздумам і праўдзівасцю эмацыянальнага перажывання, часам горкага, але заўсёды жыццесцвярджальнага.

# Хто ахвяра мітусні?




Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

Прызнацца, дагэтуль быў мала знаёмы з літаратурнымі здабыткамі пісьменніка Віктара Супрунчука. У тым ліку з яго творамі, адзначанымі ў 1997-м літаратурнай прэміяй імя Івана Мележа. Сёлета ў студзеньскім нумары «Нёмана» друкаваліся яго апавяданні «Для цябе я гатовы на ўсё» і «Вясковае каханне», якія парадавалі шчырасцю інтанацый і натуральнасцю ва ўзнаўленні псіхалогіі і паводзін галоўнага героя. Новая аповесць пісьменніка «Мітусня», якая з'явілася ў майскім нумары «Полымя», пакінула крыху іншыя ўражанні.

Дзеянне твора адбываецца ў канцы 1980-х — пачатку 1990-х гадоў. Галоўны герой, Антон Іванавіч Васілец, вырашае стварыць з сябрамі невялічкае прадпрыемства і становіцца яго кіраўніком. Аўтар апісвае эканамічныя рэаліі, звыклыя для таго часу: рэкет з боку крымінальных структур і спроба атрымаць ільготны крэдыт, перапродаж партыі віна і імкненне вырашыць праблемы праз хабар… Пакрысе герой расчароўваецца ў сучаснасці (нездарма ён кажа пра «так званую перабудову») і ўсё больш параўноўвае яе з мінулым («калі быў Савецкі Саюз, усё было зразумела»). Урэшце Васілец пачынае ўспрымаць постсавецкую рэчаіснасць як мітусню. Герой літаральна задыхаецца ў новым паветры, якое падаецца яму раздражняным: «Я нічога не хачу шукаць, таму што гэта мітусня… Я аддаў жыццё мітусні, а вынік?.. Ён — адзін, аднолькавы для ўсіх… Я імчуся ў мітусні і не ведаю, дзе мой прыпынак, дзе знайду свой спакой. Мітусня, мітусня…»

Зрэшты, да такіх высноў галоўны герой прыходзіць у фінале аповесці. А падчас дзеяння напоўніцу рэалізуе ўласныя памкненні ў асабістым жыцці. Толькі на 60 часопісных старонках Васілец паспявае зрабіць столькі, колькі больш сарамлівыя героі не паспяваюць за ўсё жыццё. Памарыць пра тое, як мог бы паехаць у госці да Алены, пакуль яе муж у камандзіроўцы. Згадаць, як начаваў з Ганульяй у працоўным кабінеце, цалаваўся пасля добрай чаркі з Людмілай Іванаўнай і прыязджаў на пабыўку да даўняй сяброўкі Насці, дзе яго заўсёды чакалі «скварка, чарка і цёплы ўтульны ложак». Скіравацца ў населены пункт Прыгранічны, дзе так і не сустрэцца з Ганнай (не блытаць з Ганульяй!), а пазней правесці час з Марынай (з-за ранняга вяртання мужа небараку давядзецца скакаць з акна. Шчасце, што жанчына жыла на першым паверсе). Не варта забываць, што Васілец, паводле ўласнага прызнання, вельмі любіць жонку і дзяцей. Сям'я яму «вельмі дарагая». Што тут казаць, Юргон і Юджын з твораў Анатоля Казлова паміраюць ад зайздрасці і нервова паляць убаку.

На жаль, адносіны жанчын з пачынаючым бізнесменам толькі канстатуюцца і акрэслены надзвычай пункцірна. Згаджуся, усе гераіні з'яўляюцца вобразамі другога плана. Таму пры жаданні іх стасункі з Васільцом можна трактаваць як яшчэ адну праяву мітусні ў яго жыцці. Але праблема ў тым, што ў падобным ключы вырашаны ўсе астатнія дзейныя асобы аповесці. Індывідуальнасць у іх адсутнічае, таму пра раскрыццё псіхалагічных вобразаў казаць, на жаль, не выпадае.

Нельга лічыць удачай аўтара і агульную кампазіцыю аповесці. В. Супрунчук завязвае шмат вузельчыкаў, але чамусьці многія з іх так і не развязваюцца, не маюць працягу. Напрыклад, нічым не заканчваюцца зносіны Васільца з выкладчыкам Анатолем Іванавічам (прычым інфармацыю, якую паведамляе той, нельга лічыць каштоўнай) або тэлефонная размова з Алегам Свістуновічам, які прапануе герою паўдзельнічаць у камерцыйнай аперацыі. Не зусім зразумела, навошта чытачам даведвацца пра нешчаслівы лёс цёткі Веранікі, якую колькі дзесяцігоддзяў таму падмануў акцёр бабруйскага тэатра. Якая сувязь гэтага здарэння з падзеямі перабудовы? Аўтар намякае, што зямляк Васільца Казімір, які займаў уплывовую пасаду, сышоў з жыцця нядобраахвотна, але зноў-такі не развівае гэтую сюжэтную лінію далей. Складваецца ўражанне, што героі адыгрываюць ролю цацак для капрызнага Васільца: спярша пагуляецца з адной, потым кідае і шукае іншую.

Зрэшты, у «Мітусні» можна знайсці багата цікавых назіранняў В. Супрунчука і яго разважанняў пра мінулае. Таму аповесць, якая, на жаль, пакуль нагадвае чарнавік, пры ўмове дапрацоўкі можа стаць творчым дасягненнем аўтара.

# Паміж чорным і белым




Алена КАРП

Па традыцыі пяты нумар «Нёмана» расійска-беларускі. І, здаецца, тое, што большасць аўтараў рэфлексуюць над пытаннем «Русь, куда ж несёшься ты?» і несуцяшальна канстатуюць, што некуды пад адхон, — ужо таксама традыцыя.

Творы леташняга нумара былі аб'яднаныя яшчэ і настальгіяй па СССР. Сёлетні адкрываецца падборкай Уладзіміра Хамякова «Перамогай уратаваныя, замром», якая заяўляе новы цэнтральны матыў. Ім становіцца вайна. Другая сусветная, чачэнская або нябачная духоўная — па сутнасці ўсё адно, бо вайна выкарыстоўваецца як ідэалагема, абавязковая згадка, якой дастаткова, каб выклікаць патрыятычныя пачуцці. Калі лепшыя аўтары франтавога пакалення імкнуліся да максімальнай праўдзівасці, перадачы ўнікальнага досведу, увагі да асобнага чалавека, то многія пісьменнікі пасляваеннага пакалення ў лепшым выпадку проста паўтараюць іх, не ўмеючы, аднак, дасягнуць той пранізлівасці і напружанасці. У горшым адбываецца ўніфікацыя. Замест «я», «ён», «яна» — «мы», «тыя», «дзяржава», і гэта, вядома, маштабней, толькі за лесам не бачна дрэў. Такая адна з бязрадасных тэндэнцый: тэма не развіваецца, не паглыбляецца, дастаткова толькі рэверансаў — проста назваць, узбуйніць маштаб, дадаць пафасу.

У «Бранскай аповесці» Мікалая Іванова падзеі чачэнскай вайны служаць і перадумовай, і фонам развіцця сюжэта. Аўтар ведае, пра што піша, хоць і не адступаецца ад канона: абавязковае патрыятычнае выхаванне, расчараваны позірк на сучасны стан рэчаў. Зрэшты, не ён адзіны дэманструе немагчымасць і нежаданне выйсці за межы схемы, а вось празмерная і бясспрэчная ідэалізацыя галоўнага героя — гэта ўжо спецыфіка стылю М. Іванова. Каб канчаткова пераканаць чытача, што перад ім не менш як маральны ідэал, аўтар не лянуецца пералічыць усе заслугі свайго персанажа. У гэтым рэестры могуць быць і паўторы: у лютую завіруху герой спыняецца, каб падвезці бабульку, у яшчэ больш лютую завіруху падвозіць маладога хлопца. Але галоўны козыр, доказ мужнасці, моцы і бясстрашша, канечне, Чачня. Гэта настолькі відавочна, што цяжка паверыць словам: «…я не выпячиваю Чечню охранной грамотой». Хай сабе запас «дарожных» сюжэтаў абмежаваны, а ваенны досвед выключна важны, аднак тое, што іншыя героі (бабулька, Лёша) выглядаюць побач з палкоўнікам, ды і ў яго вачах, маленькімі, нехлямяжымі і выклікаюць шкадаванне, цяжка апраўдаць. Мы чытаем пра душэўную шчодрасць, гатоўнасць дапамагчы, а паміж радкамі — пра самалюбаванне і самасцвярджэнне за чужы кошт, і гэта ніяк не атрымліваецца прымірыць.

Творы Уладзіміра Крупіна, аб'яднаныя ў нізку «Ахвяра вячэрняя», — бадай, найлепшая ілюстрацыя да выказвання тэарэтыка літаратуры, эстэтыка, прафесара Юрыя Борава: «Взамен сталинской пролетарской партийности деревенщики обрели не менее узкую — крестьянскую; и сразу добрый мир превратился во враждебный, полный опасностей: иноверцы, инородцы, рок-музыка, модернизм, эротика, Запад. И стали писатели смотреть на этот мир очами отчаяния и муки, ненавидя многое в этом мире и воображая ненависть мира к себе». Уладзімір Крупін ідэалізуе мінулае, дэманізуе сучаснае («А ведь все в мире против России»), жанглiруе шаблонамі, але не-не дый сарвецца ў двайныя стандарты ці ненарокам пахісне выбудаваны ўласнымі рукамі светлы вобраз аўтара.

Міхаіл Папоў не парушае агульнай танальнасці сваім апавяданнем «Сустрэчны марш». Складзенае з урыўкавых эпізодаў, сноў, успамінаў, напаўфантастычнае, яно заканчваецца вельмі канкрэтным і не вельмі мастацкім воклічам: «— А ты чего стоишь? Особого приглашения ждёшь?! Али не видишь, что Родина-Мать на краю гибели?!», які, уласна, і ёсць мараллю.

Сярод твораў, што падаюцца замаскіраванай публіцыстыкай, а не мастацкай літаратурай, сапраўдным падарункам чытачу выглядае аповесць Каміля Зіганшына «Боцман». Зрэшты, гэты твор у духу Сэтана-Томпсана, з дынамічным сюжэтам, сімпатычнымі героямі, выверaным стылем і ясна, па-мастацку абазначанымі праблемамі добры сам па сабе, а не за кошт таго кантэксту, у якім ён апынуўся. Выбіваюцца з кантэксту і творы самых маладых аўтараў нумара — Алёны Беланожка і Сяргея Лагодзіна. А. Беланожка не баіцца вызначэння «лёгкая» ў дачыненні да сваёй прозы і свядома ды размашыста выкарыстоўвае ўсе адпаведныя атрыбуты. С. Лагодзін адначасова лаканічны і няспешны ў сваім аповедзе пра адзіноту, сяброўства, учынак.

Вялікі і змястоўны блок матэрыялаў прысвечаны юбілею Янкі Маўра. Сярод іх асабліва вартае ўвагі нечаканае і шчырае інтэрв'ю Наталлі Казапалянскай з Міхасём Міцкевічам.

# Хэпі-энд з піражкамі




Алеся ЛАПІЦКАЯ

Веснова-летні нумар «Маладосці» атрымаўся моцным, свежым і абуджальным. Галоўным чынам такі настрой стварае нізка вершаў Алеся Емяльянава-Шыловіча: прысвячэнне «любай Анастасіі», «анёл веселосці» ў эпіграфе, аўтару дваццаць пяць гадоў — у выніку маем з тузін вершаў пра шчаслівае ўзаемнае каханне з месцамі фантастычнай вобразнасцю («Цягнік»). Шмат пяшчоты і захаплення, а страшнае магчыма толькі ўва сне, хаця і «развітанне на хвілю — маленькая смерць»…

У рэдкай рубрыцы «Драматургія» змешчаны пачатак інтрыгоўнай гістарычнай драмы-дэтэктыва «Забойца з роду Дастаеўскіх» Ягора Конева, «Паэзію» працягваюць больш сталыя і вытрыманыя вершы Васіля і Анатоля Дэбішаў, а найбольш значная празаічная публікацыя — навелы Уладзіміра Сцяпана. Але аб'ектам увагі ў гэтым аглядзе стане аповесць «Не плач, Лізанька» — вельмі ўдалы твор маладой пісьменніцы Таццяны Дземідовіч.

Галоўная праблема аповесці — стаўленне падлеткаў да сваіх равеснікаў з асаблівасцямі разумовага развіцця. Ужо дарослая Рыта распавядае дачцэ гісторыю дзяцінства, у якой галоўнай гераіняй паўстае марудлівая, неахайная Лізанька. Паміж дзяўчынкамі, натуральна, апынаецца калектыў, што ставіцца да Лізы не надта спагадліва і добразычліва. Пісьменніца шчасліва пазбегла прымітыўных схем, якія першымі прыходзяць у галаву (шчырае, клапатлівае сяброўства і ў выніку — перамога над зламыснікамі альбо падкрэсленая непрыхільнасць, якая з пэўнай нагоды пераходзіць у разуменне). Гераіні аповесці не толькі аднакласніцы, але і суседкі: яны сябруюць да таго часу, пакуль не пачынаюць разам хадзіць у школу. Вось тут і выяўляецца, «што Лізанька можа быць брыдкай».

Даўняе сяброўства не дазваляе Рыце разам з усімі пацвельвацца з дзяўчынкі, але непрывабнасць Лізы, якая імкнецца і ў школе заўсёды быць побач з суседкай, моцна яе раздражняе. Рыта то злуецца на Лізу і імкнецца адмежавацца, то дакарае сябе за непрыгожыя ўчынкі. Лізанька ж — добрая, прывязлівая, незлапомная, яна зусім не дурнічка, хаця крыху абмежаваная і наіўная. Часам яна разважае нават глыбей за Рыту. Праўда, галоўнае, чым дзяўчынка прываблівае аднагодкаў, — гэта незвычайныя цацкі, якія прывозіць дзядзька з Германіі.

Пісьменніца не імкнецца перабольшваць, драматызаваць, павучаць, супрацьпастаўляць дабро і зло, таму аповесць атрымалася рэалістычнай, псіхалагічнай і дастаткова дынамічнай. Дарослая Рыта не баіцца згадваць колішнюю агіду, злосць, нават нянавісць да суседкі, але расповед заканчваецца тым, што менавіта Ліза была яе найлепшай сяброўкай. Праўда, гэтае разуменне прыйшло напрыканцы школы: праблемы падлеткавых адносін маюць узроставы характар, і вырашыць іх можа толькі час. У завяршэнне аповесці з'яўляецца «цётка Ліза з пірагамі», якой з дзяцінства захапляецца Рыціна дачка…

Т. Дземідовіч выдатна здолела перадаць непасрэднае дзіцячае маўленне, якому ўласціва вельмі арыгінальнае словаўжыванне. Пры гэтым сама аповесць у сэнсе стылю атрымалася даволі простай — верагодна, таму, што аўтарка «піша больш для дзяцей і падлеткаў». Гэты твор з цікавасцю могуць прачытаць вучні, яго добра будзе абмяркаваць на ўроку ці выхаваўчым занятку, бо ў значнай ступені ён прысвечаны школьнаму жыццю. Тут, як у кожным класе — сапраўдным ці створаным уяўленнем дзіцячых пісьменнікаў, — вылучаюцца выдатніца, прыгажуня, важная стараста, задзіра і прывабны спартсмен, здараюцца самыя розныя рэчы — ад няшчаснага кахання да здзеклівага патрабавання заесці ўрачыстую клятву календулай. Тым не менш праблема існавання чалавека з абмежаванымі магчымасцямі ў сучасным грамадстве актуальная не толькі для падлеткавай літаратуры — асабліва калі паспрабаваць выявіць адметнае светаўспрыманне такога героя. І нават крыху крыўдна, што беларускім падлеткам больш шанцуе на аўтарскія знаходкі, чым абагуленаму «сур'ёзнаму» чытачу…

## Тацяна СІВЕЦ



***

*Я губляю спакой прыкладна каля поўначы,*
*Калі ўсе мае духі збіраюцца побач і*
*Слухаюць, і маўчаць…*
*І тады я хачу дамоў, і хаджу, не помнячы,*
*Я хаджу, не помнячы, дзе мой дом і калі — мой час…*

*Я іду адна па збялелым ад болю горадзе*
*І прашу таго, хто не спіць,*
*на мяне хоць крышачку паглядзець…*
*Ён глядзіць і пытаецца сумна: «Куды ідзеш?»*
*А я думаю, што вось проста хачу дамоў,*
*Праўда, цяпер не ведаю, дзе ён, дзе…*
*(А ў ценяў гэтых — вочы мае, у іх нават голас — мой!)*

*Толькі вораг раскажа праўду пра тое, якім ты быў,*
*Толькі поле ведае час, найпрыдатнейшы для касьбы…*
*Пад глыбокім снегам — ты чуеш? — расце трава…*
*Той, хто даруе, можа цябе забыць,*
*Толькі ты яго, калі ласка, не забывай!..*

## Колас піша ліст

*Ну, якія навіны, браце?! Прачнуўся — восень.*
*Клёны гарацъ-пунсовеюць — нат пад павекамі горача.*
*Ведаеш, да ўсяго можна прывыкнуць,*
*ды толькі вось як...*
*Як ты прывыкнеш да гэтай нязбыўнай горычы?..*

*Некалі мы з табою марылі-гаварылі-снілі...*
*Дзе цяпер тыя сны пра Айчыну, Зямлю ды Волю?*
*З гэтых крыжоў нас ужо аніхто не зніме...*
*А помніш, як там, у Смольні, спявалі хвоі?..*

*Гэтыя? Пішуць, канечне... А што ім стане?!*
*Каб жа што добрае, дык адно панегірыкі ці даносы.*
*Я нават думаю, што і на тое патрэбны талент,*
*Толькі позіркі іхныя ўсё цяжэй выносіць...*

*Мне сніцца маці мая, што калыску пустую люляе.*
*Не ведаеш, да якой нагоды?..*
*Ну, да сустрэчы, браце...*
*Колас піша Купалу. Восенню 42-га года.*
*І не адпраўляе...*

## Дзённік Янкі Купалы

Лета 1912.
*Умэнт высыхаюць лужыны на асфальце,*
*Божа, якія ў яе гарачыя вусны, якія халодныя пальцы!*
*Словаў хапае яшчэ, каб ва ўсім прызнацца,*

*Толькі няма ў чым. Пакуль. Пакуль*
*Можна яшчэ сачыць, як сонца ўглядаецца —*
*маладзіцаю — у раку,*
*Можна трымаць у далонях яе пяшчотную,*
*тоненькую руку,*
*Бы сэрца сваё, на павуцінцы, на валаску…*

Лета 1930-е ад нараджэння таго,
каго не прынята ўголас назваць на вуліцы.
*Тыя, хто ведаюць, вочы адводзяць, сутуляцца…*
*Краіна мая пачуваецца непрытульніцай…*
*Я быў толькі паэтам! Толькі паэтам, чуеце?!*

*У гэтым віры, у бясконцым, у злым карагодзе*
*Мне сніцца, што нехта імя маё выразае —*
*нажом па лёдзе…*
*Матуля, прашу цябе, любая, пры нагодзе*
*Перадай ёй, што гэта не мой прыпынак —*
*я не хацеў сыходзіць!..*

Лета. Халодна. Год 1942-і.
*У Масквы-ракі крывавыя берагі.*
*Мой пакой 414. Ведаеш, неблагі…*
*Грукае нехта. Напэўна, час аддаваць даўгі…*

***

*Я ім скажу аднойчы: «Глядзіце, мора*
*накрыла нас, нават не бачна неба…*
*Толькі дзесьці па-над паверхняй лунаюць, як цені,*
*чайкі».*

*Я скажу ім аднойчы: «Часу*
*бракуе — яго ўжо няма ні кроплі. Зморaныя,*
*мы аніколі не выберамся — канечне, гэта канец…*
*А можа быць,*
*гэта — шчасце…»*
*Прыхінуўшыся галавою*
*(тады ўжо ўсё будзе можна),*
*я спытаю нарэшце ў іх, дарослых ды абазнаных:*
*«Ну чаму дабіваюць тых, каго лічаць моцнымі?*
*Ну чаму ўсё лепшае адбываецца, як заўжды, не з намі?*
*І заўсёды знаходзіцца той, хто нечага не дазволіць?»*
*Яны доўга маўчаць, пасля прамаўляюць разам:*
*пра сонца, якое недзе, пра горы з гора…*
*А потым згадваю раптам, што я — лятучая,*
*і на імгненне выпростваюся — на волю…*
*І разумею адразу ж,*
*чаму так люблю праклятае гэта мора.*
*І чаму гэта мора так любіць мае паразы…*

***

*Ну і што, што «ва ўсіх» — вось так?!*
*А ў мяне — вось тут,*
*Там, дзе грукоча нешта*
*(заўжды не ў такт),*
*Болей няма пустаты —*
*узялі і выразалі пустату!*
*Дык і ты прыдумай цяпер,*
*кім ты ёсць, кім ты хочаш стаць…*
*Бо, да прыкладу,*
*нехта межаў не знае зусім паміж*
*«Так» і «Не» —*
*і не падае рукі…*
*Нехта падае, незалежна*
*ад дахаў, ад выдыхаў… Мы з турмы*
*Аніяк не вызвалімся.*
*Вазьмі ж*
*За правіла не трымацца*
*ніякіх правілаў, акрамя*
*Адзінага, што вымушае*
*не апускаць (ні вачэй, ні рук).*
*А калі я трынаццаць разоў на дзень*
*не вымавіла твайго імя —*
*Не загортвайце мне гэты дзень, не трэба!*
*Я яго не бяру!*



Фота Анеі Святловай

## Алесь СПІЦЫН



***

*Мне кажуць: «Жыццё не сябруе з табой»,*
*А я адкажу, што не скрыўджаны лёсам,*
*Калі мне такую прыгожую восень*
*Гасподзь падарыў на спатканне з табой.*

*Такіх падарункаў не кожны дастаў,*
*І радасць ад неба не кожны прымае —*
*Так рэдка знаходзіш любоў і каханне,*
*І часта знаходзіш не там, дзе шукаў.*

*Прарочаць — халодная будзе зіма,*
*А значыць, праўдзівай вясны дачакаем,*
*І пойдзе вада па знямоганым краі,*
*І будзе салодкаю тая вада.*

***

*Гучна хваліцца свет*
*Шматгалоссем машын,*
*А пакутуе ціха, амаль незаўважна,*
*А здалёк, а здалёк*
*Заблукалай душы*
*Невідочнае неба зіхціць недасяжна.*

*А вакол, а паўсюль,*
*Быццам стрэлы вярбы,*
*Вырастаюць крыжы — зноў і зноў*
*вырастаюць.*
*На рамёны усім,*
*Хто народжаны быў,*
*Ускладаюць крыжы — не на жарт*
*ускладаюць.*

*І бязлітасна спіны*
*Ўзразаюць яны*
*І пужаюць пакутай,*
*калецтвам і смерцю,*
*І таму іх насіць*
*Не з рукі, не з рукі,*
*І не кожны жадае змагчы іх данесці.*

*І шпурляюць крыжы*
*На зямлю, на зямлю,*
*І забыцца на іх намагаюцца шчыра:*
*Аддаюць перавагу*
*Другому ярму,*
*Што лягчэйшым здаецца,*
*шчаслівым і мірным.*

*І пад гэтым ярмом,*
*Невыносным ярмом,*
*Свет пакутуе ціха,*
*амаль ненатольна —*
*Гэта спрэс і паўсюль,*
*І, здаецца, ніхто*
*Не прыдатны суцішыць*
*сусветнага болю.*

*Толькі недзе ў нябёсах*
*(Дзе промні святла)*
*Невідочныя духі нячутна спяваюць:*
*Абвяшчаюць спакой*
*Рамёнам, рукам,*
*Што крыжы,*
*што крыжы на зямлю не скідаюць...*

***

*У ценю дубровы я сэрца схаваю,*
*Дзе майскія птушкі сакочуць.*
*Ад болю схаваю, ад скрухі-адчаю,*
*Што вернай пагібелі хоча.*

*Ад вечнай пагоні варожае згрaі*
*Схаваюся ў хованцы мілай,*
*Дзе Госпада творы жыццём напаўняе*
*Зямлі разагрэтая сіла.*

*Мой Божа, мой Светлы! Адзіназбавенны!*
*Дай хвілю салодкай бяспекі,*
*Дай веру ў магчымасць майго асвячэння*
*І ў радасць, што прыйдзе навекі.*

*Дай меч ачышчэння і шчырасці пояс,*
*Адвагі ў змаганні з сабою,*
*Каб я сярод птушак,*
*пачуўшы Твой голас,*
*Адкінуў сумневы і стогны.*

*У ценю дубровы я сэрца схаваю,*
*Дзе майскія птушкі сакочуць,*
*Каб выйсці насустрач раз'ятранай зграі*
*Узброеным сілай прарочай…*

***

*У прыгажосці белых туманоў,*
*Сярод нябачнасці на покліч таямніцы*
*Паволі крочым, а вакол святло,*
*Святло паўсюль без краю і крыніцы.*

*За гэта я люблю туманны дзень,*
*Дзе растваpаюцца ў святле*
*паўсюдным цені,*
*Дзе не відаць ніякіх перамен,*
*Адно святло ў суцэльнай чыстай белі.*

*Тут апранаюцца ўсе колеры ў пастэль,*
*Лагоднеюць абрысы кожнай рэчы,*
*Тут ёсць жыццё... Усё жыццё ў святле.*
*І нечаканыя здараюцца сустрэчы...*



Маргарыта ПРОХАР

# Тонкая лінія

*Апавяданне*

Мне даводзілася чуць розныя гісторыі, і гучалі яны па-рознаму, але гэтая была ўвогуле незвычайнай, таму што прагучала... *на бягу*. Хто яе расказаў — няхай гэта застанецца невялікай таямніцай, якая нічога не можа змяніць у сутнасці гэтага апавядання.

«...Паслухай, не збягай ад мяне!.. Я не магу так хутка... Куды ж ты? Пачакай, пачакай, я ўсё растлумачу, ты ж нічога не зразумееў! Не бяжы так хутка! Спыніся — на імгненне спыніся, я прашу цябе...

...Ён збягаў ад мяне нават у снах. Я прачынаўся і адчуваў, як шалёна стукае маё сэрца, і да гэтага часу ўсё ніяк не магу зразумець, чаму я тады гэта зрабіў, чаму ўсё так атрымалася.

Ён так і не зразумееў свет, у якім збіраўся жыць, — мой сябра, паэт і рамантык. Так я думаў тады, а цяпер мне здаецца, што гэта ён разумееў больш, а калі не разумееў канчаткова і ўсвядомлена, то адчуваў — прадчуваў. Гэта цяпер я ведаю, што існаваць і жыць — розныя рэчы, што падчас ты не можаш вярнуць тое, што іншым здаецца — вярнуць проста, дастаткова толькі забыць адну секунду, адно імгненне мінулага. Але ёсць мяжа, грань, тонкая лінія, незаўважная і незразумелая, якая падзяляе ўсё і якую нельга сцерці. Гэта ты мне павінен быў растлумачыць, спыніцца і растлумачыць.

Ведаеш, а Яна ўсё яшчэ кахае цябе. Калі ідзе дождж, Яна выходзіць на балкон, моўчкі стаіць і глядзіць у дажджыстую далеч. Яна памятае, што ты любіў дождж.

А я кінуў вялікі спорт. І ніколі ўжо не зраблю забег ні на якую дыстанцыю, акрамя гэткіх, як сёння, ранішніх прабежак на світанку — як тады, калі мы толькі пачыналі, толькі цяпер замест беговай дарожкі — вуліца. А так, па справах, я больш езджу. І я заснаваў прыз твайго імя — лепшаму спартсмену-бегуну ўніверсітэта. На самай кароткай дыстанцыі — стаметроўцы. Ты любіў менавіта кароткія дыстанцыі. Апошняя атрымалася залішне кароткай.

...Калі б я тады паспеў, я ж столькі абганяў цябе на розных спаборніцтвах, а на гэтым, дзе стаўкай было тваё жыццё, — не здолеў. І яшчэ я шкадую, што крыкнуў наўздагон: «Яна не вартая цябе, ніякае каханне не вартае жыцця!» А ты моўчкі бег... Я прасіў цябе спыніцца, я ж мог усё растлумачыць: я проста Яе пацалаваў, мы былі такія легкадумныя, і Яна тады яшчэ не разумела, што кахае цябе так, як зараз.

Калі б ты спыніўся на імгненне!..

Ля ўніверсітэцкага будынка заўсёды столькі транспарту — а ты пабег на такой шалёнай хуткасці... Вадзіцель не вінаваты: проста не паспеў затармазіць своечасова. Я ўсё гэта памятаю, нібыта здарылася ўчора. Успамінаю і аж пераймае дыханне, не хапае сіл, нібыта бягу і бягу за табой...

...Дзе ж гэтая тонкая лінія паміж жыццём і смерцю, паміж болем і шчасцем, паміж сонцам і дажджом, зямлёю і небам, мною і табою?

Я кожны ранак на гэтых прабежках нібыта бягу да яе, як некалі да фінішу, я так хачу дагнаць яе і спасцігнуць: на ёй — тваё апошняе дыханне, твой твар, на імгненне звернуты да мяне. Я не змог затрымаць цябе, не даць перайсці гэтую тонкую лінію, гэтую рысу, да якой магчыма ўсё, пасля якой няма ні звароту, ні апраўданняў, пасля якой збягаюць назаўсёды.

Яна вінавата ва ўсім, бо яна раздзяляе нас, гэтая няўмольная тонкая лінія. Грань, мяжа.

...Ведаеш, што мяне пакуль утрымлівае ў жыцці? Мне здаецца: я бягу ўслед за табой і мы ўсё яшчэ размаўляем — дакладней, гавару я, а ты бяжыш наперадзе і маўчыш. Аднак мне здаецца, што ты ўхваліў бы ўсё тое, што зроблена мной. Я стаў хірургам, я ратую людзей ад набліжэння да тонкай лініі. І кожны раз, калі ў аперацыйную прывозяць хворага, я ўважліва ўглядаюся ў яго твар. Дзіўна, але абліччы чымсьці падобныя, нешта агульнае чытаецца ў шэрым, напружаным адценні, быццам яны нешта бачаць там, за намі. Я працую ў рэанімацыі, сюды часта прывозяць пацярпелых у аварыях. Я не дазваляю ім збегчы, знікнуць за тонкай лініяй, і гэта надае мне права наблізіцца да цябе. А калі не ўдаецца выратаваць, я кідаю ля бальніцы сваё аўто і бягу, — не іду, не еду дамоў — а менавіта бягу, доўга і ўпарта, нібыта імкнуся дагнаць таго, хто ўжо сышоў.

...Не збягай ад мяне так далёка. Мне цяжка гучна гаварыць, калі мы не бяжым побач. На гэтых ранішніх прабежках кожны дзень я імкнуся дагнаць цябе. Бягу па тратуарах гарадскіх вуліц і ўсё думаю, размаўляю з табой...

Мяркую, ты хочаш даведацца не толькі пра мяне, але і пра Яе, што змянілася ў яе жыцці. Яна піша музыку і працуе над сабой. Мне падабаецца, што Яна піша для скрыпкі — гэта самы шчыры інструмент, які ўмее плакаць. Раз на тыдзень я прыязджаю да Яе слухаць яе музыку. Яна заўсёды чакае і вельмі перажывае, калі я спазняюся. Яна зрабілася такой кволай і хваравітай, што я стараюся яе не засмучаць: калі паабяцаў прыехаць, то я хаця б упэўнены, што Яна знойдзе ў сабе сілы дажыць да гэтага дня. Як магу, я таксама зберагаю Яе ад тонкай лініі.

...У думках даганяючы цябе, я ўяўляю, што б ты спытаў у мяне цяпер. Ці стаў я тым, кім хацеў? Не. Мне здаецца, я пражыў чужое жыццё. Раней жа я быў зусім іншым: цікавіўся не тым, чым сёння, чытаў іншыя вершы, марыў пра іншае. Ведаеш, мне часам здаецца, што я пражыў частку твайго жыцця і зрабіў тое, чым бы ты мог ганарыцца. Гэта суцяшае мяне, рухае мной. Мабыць, таму яшчэ хапае сіл бегчы за табою ўслед: чалавеку заўсёды цяжка замкнуцца ў сабе, зразумець, што яго час скончыўся.

Але ты заўсёды будзеш маладым, ты ніколі не пераступіш лінію, якая аддзяляе маладосць ад сталення. А я ўжо даўно па той бок часу, дзе ведаеш, што сапраўды ўяўляюць сабой людзі і рэчы. Таму так цэніш тое нешматлікае, што знаходзіцца на светлым акраўку твайго жыцця.

...Так, мне цяжка. Відаць, я развучыўся бегаць. Помніш, ты казаў пра перавышэнне магчымасцей: чалавек на асле ёсць чалавек на асле — і нічога болей.

Сёння я прабягаю ля стадыёна і не магу не ўспомніць той дзень, калі ўпершыню заўважыў цябе на беговай дарожцы.

...Была ранняя вясна, ранак, шумна прачыналіся гракі ў старым парку насупраць; спрабаваў свае сілы дождж. Здавалася, жыццю радуецца толькі адна трава — яркая, яна біла ў вочы першабытнай зелянінай. Я быў прывык да такіх ранішнікаў, а ты — яшчэ не, табе ўсё было ў навінку. Дзіўны цыбаты хлопец, які бяжыць і глядзіць не наперад, не ўбок, а на неба. Памятаю, я тады гучна крыкнуў: «Эй, цуд, варону праглынеш! Сыдзі з дарожкі». Ты не сышоў, і мы моцна пабіліся — як жаўтаротыя птушаняты, што спрабуюць моц. Я разбіў табе нос, ты пасадзіў мне сіняк пад вокам і доўга пасля прасіў прабачэння. Але гэта і аб'яднала нас у гэты ж дзень: з нашых калецтваў пачалі смяяцца аднагрупнікі, маўляў, нам патрапілі незгаворлівыя палюбоўніцы. І мы разам дубасілі гэтых шчуплых крыўдзіцеляў. А назаўтра ранкам разам беглі па старой дарожцы. Я вучыў цябе бегаць так, як сапраўдныя спрынтары. Я прывёў цябе на тваё першае спаборніцтва. Ты быў малодшы за мяне на год, і гэта дазваляла нам удзельнічаць у розных спаборніцтвах, дзе ты мог перамагаць. Але на нашых ранішніх трэніроўках перамагаў толькі я. Я абганяў цябе і крычаў: «Гані, салага, ну давай, гані!» І гэта я навучыў цябе аднаму сакрэту, як лепш браць старт, як першаму выйсці з лініі. Гэта было важна, таму што ты павінен быў выбегчы з лініі менавіта першым, ты ж не зможаш пасля выбіцца з натоўпу бегуноў: ты не такі жорсткі і цынічны, як я і яны. А бегуны могуць вышпурнуць цябе да бар'ера. Спачатку я не падумаў пра гэта. Але аднойчы такое здарылася — цябе выштурхнулі локцямі за металічную агароджу, і ты ляжаў у крыві, са зламанай рукой, як падбітае птушаня. І потым усё пытаўся ў мяне: ну чаму яны так жорстка зрабілі? Я спрабаваў патлумачыць, што жорсткасць непадуладная розуму і сэрцу. І ты вывеў сваю першую казачную тэорыю колераў пачуццяў. Ты ўмеў добра маляваць і намаляваў усе пачуцці. Яны на тваіх карцінках быццам ажылі: радасць плюскала вачыма, як маленькая дзяўчынка каля навагодняй ёлкі; жорсткасць нагадвала асляплага чорнага цыклопа; супярэчнасць ты перадаў у дождж; спакой — ва ўрачыстасць зімняга інею. І тады ты сказаў, што калі б мог, то маляваў бы толькі неба, але няма фарбаў, каб перадаць усе яго адценні — вясновавечаровага, срабрыста-таемнага... На жаль, я цяпер не памятаю ўсё.

...Бачыш, я ўжо не паспяваю за табой, збіваецца дыханне. Вучань пераўзышоў настаўніка — сітуацыя, якой, мабыць, ужо мільён гадоў.

Аднак я па-ранейшаму імкнуся дагнаць цябе. Часам, у адчаі, я крычу, пытаюся: што ж патрэбна, каб мы беглі разам? Што патрэбна, каб знікла гэтая тонкая лінія, гэтая, што раз'яднала нас, мяжа? А ты ўсё не адказваеш мне: бяжыш моўчкі, роўна і хутка, як сапраўдны спрынтар. Я нават і не ведаю цяпер, для каго з нас бег быў прызваннем і каму больш патрэбны былі гэтыя дыстанцыі, лініі ад старту да фінішу. Каму патрэбна было быць моцным...

...Дзіўна, але на гэтай зямлі не ўсё заканчваецца смерцю. Калі я бягу, то адчуваю і ў думках бачу цябе. І Яна помніць цябе гэтак жа абвострана, як і я. Я паўтараю: Яна любіла і любіць цябе. А для мяне каханне заўсёды было толькі назвай чарговага захаплення — разменнай манетай гульні ў пачуццё. Цяпер я разумею, што нікога і нішто не любіў па адной прычыне: прырода абдзяліла мяне моцнымі пачуццямі. Што ж, я нарадзіўся ўсяго толькі азартным цынікам, але не збіраюся гэтага саромецца. І ты зразумееш, таму што выдатна ведаеш: з дрэва не зробіш жалеза, а з вады — сонца. Для кахання патрэбна палымянае сэрца. А я заўсёды спакойны і не пераношу, калі чужыя пачуцці выплёскваюцца мне на галаву. Так, гэта радуе самалюбства, але больш напружвае: я пачынаю адчуваць сябе не тым, хто я ёсць. Паўтару, я не народжаны для шэпту пад зоркамі. Я так і не знайшоў таго, хто б мяне зразумеў. Хто б мог проста свяціць — ненавязліва, ласкава, прыгожа. Свяціць не набліжаючыся. А гэты пацалунак — проста хлапечая выхадка, чарговы «шэдэўр» цыніка. Што ж, з вады не зробіш сонца.

Я і Яна ўвесь час гаворым пра цябе, але адно пытанне ўсё-ткі не адважваемся задаць адно аднаму. Аднак сёння я ўсё ж хачу запытаць у цябе: чаму ты тады пабег? Не ўдарыў мяне, не абазваў, а менавіта пабег — прэч і наперад. Ты маўчыш, а я ўжо стаміўся бегчы — збіваецца дыханне. Правільнае дыханне — галоўнае для спрынтара. Праўда, які ўжо з мяне спрынтар? Я не паспяваю нават за ўласным жыццём і часам, толькі супакойваю сябе, што гэта не тое жыццё, за якім трэба паспяваць. Увогуле, я зразумеў, што нямногае ў жыцці бывае важным, але чалавек, перш чым зразумець гэта, імкнецца захапіць і паспытаць усё.

...Удых-выдых, удых-выдых. Хоць раз спыніся, пачакай мяне. Чамусьці я адчуваю, што менавіта сёння, у гэтую ранішнюю прабежку, мне патрэбна многае табе сказаць. Я ніколі не прасіў у цябе прабачэння — не той выпадак. Я ведаю: калі сам не дараваў сабе сваю віну, ці ж можа дапамагчы чыёсьці прабачэнне і апраўданне. Мне не трэба прабачэння, я толькі хачу, каб ты заўсёды памятаў, што ты мне як брат. Малодшы брат. У мяне ніколі не было ні сясцёр, ні братоў. Я рос як дзікая шыпшына, якая ўяўляе сябе апельсінавым дрэвам. Ніхто і ніколі для мяне нічога не значыў: так склалася, што я вельмі востра адчуваў дробязнасць людзей, альбо мне проста чамусьці ў жыцці трапляліся адны «людзішкі». Ты быў не такім. Ты быў дзіваком. Звычайны чалавек проста паўшчуваў бы мяне, ўдарыў, а ты нічога не сказаў. Ты пабег прэч, нібыта верыў, што можна ўцячы ад рэальнасці. Таму што гэта быў ты, мой сябра, паэт і рамантык.

...Ведаеш, я стараюся, каб мае прабежкі адбываліся рана, на світанку, калі мала машын. Яны раздражняюць мяне. Але сёння транспарту больш, чым звычайна. Як жа я забыўся! Вясной гадзіннікі пераводзяць на гадзіну наперад. І сёння якраз такі дзень. Я бягу каля школы і бачу, як дзеці чародкамі сцякаюцца ў шэры пяціпавярховы будынак каля стадыёна. Яны вясёлыя, спрачаюцца, смяюцца, пацельваюць адзін аднаго, абганяюць, даганяюць. Але што гэта? Хлопчык пабег даганяць сабаку — вясёлага, гуллівага. Вось яны каля краю тратуара, вось ужо на вуліцы, на скрыжаванні, дзе машыны! Божа, я не вытрымаю гэтага. Я бягу! Я выратую яго! Я лячу, як птушка. Я паспяваю, так, я паспяваю выштурхнуць яго на тратуар. Я паспяваю... Вось толькі сам... Тонкая чырвоная лінія разрываецца перад вачыма, і ў гэтым акрываўленым тумане бачу цябе, я хутка-хутка набліжаюся да цябе. Таму што больш няма мяжы, што магла б раздзяліць нас. Яна знікла, расплылася. Я набліжаюся да цябе. Крок, яшчэ адзін...

— Здароў, салага. Ну давай, бяжым!.. Гані!..

Ты ўсміхаешся, стрымана, ледзь-ледзь, але ж я адчуваю — ты ўсміхаешся. Ты разумееш, што я не магу быць іншым.

— Яшчэ, салага, яшчэ! Жмі!

Мы ляцім хутчэй за ўсіх. Як дзве стралы, выпушчаныя з часу, што нарадзіў нас. І нічога няма больш жаданага, чым наш апошні забег.

Мы бяжым хутчэй за ўсіх, таму што мы разам.

...Бяжыць за табою вецер ці нехта іншы пераказвае твае таемныя памкненні?.. Хто ж можа адказаць пэўна, чым заканчваецца боль твайго сэрца, што можа адбыцца з ім і табой — у рэальнасці альбо дзесьці там, за лініяй?..

...Відаць, менавіта так я хацеў бы папрасіць прабачэння, зняць сваю віну. Але гэта ўсё ж мая фантазія. Я жывы, хаця не ведаю, — добра так ці дрэнна. Напэўна, хутчэй добра, калі мы жывём, калі не спяшаемся перайсці гэтую страшную тонкую лінію. Гэтую апошнюю рысу, апошнюю мяжу. І не трэба змагацца з фантазіямі. Яны ж таксама дапамагаюць нам перамагчы. А можа, тое, што падалося мне, было дараваннем? Яго дараваннем, іншых я проста не прымаю. Ва ўсякім разе, я вельмі спадзяваўся на гэта. Нават больш — я ў гэта паверыў. У тое, што я змагу бегчы далей — вольна і лёгка. І няхай па-ранейшаму са сваёй няўмоўчнай памяццю, але і — з будучыняй».

# Язэп Драздовіч і мінская брама

**У кожнага горада ёсць свае сімвалы, без якіх гэты горад цяжка ўявіць. Яны могуць узнікаць самі па сабе, а могуць быць і адмыслова прыдуманы ў рэкламных мэтах. Ёсць такія сімвалы і ў Мінска. Але сталіца — горад з вельмі складанай гісторыяй, таму і пытанне пра яго сімвалы няпростае.**


*Язэп Драздовіч. Гарадзец. 1920 год.*

**Мікалай ПЛАВІНСКІ**

Але пачнём з кароткага аповеду пра чалавека, які ў Мінску быў зусім не доўга, хаця і паспеў пакінуць у гарадской гісторыі свой яркі след. Гэты чалавек — Язэп Драздовіч. Грамадскі дзеяч, настаўнік, пісьменнік, археолаг, этнограф, скульптар — цяжка пералічыць усе заняткі гэтай незвычайнай асобы. Але, канечне ж, у першую чаргу, — геніяльны мастак, які з аднолькавай бездакорнай падрабязнасцю маляваў і краявіды Беларускага Паазер'я, і недасягальныя куточкі Месяца, Марса ці Сатурна. Правёўшы доўгія гады ў вандроўках, Драздовіч так і не здолеў знайсці ў жыцці сваё месца. А шырокая вядомасць прыйшла да яго твораў толькі праз тры дзесяцігоддзі пасля смерці мастака. Але, як часта здараецца, сляды таго, каго мала заўважалі пры жыцці, праз многія гады выяўляюцца ў самых нечаканых месцах. Так сталася і з творамі Язэпа Драздовіча.

А цяпер вернемся да мінскай брамы, дакладней, брам. Адну з іх ведаюць не толькі мінчукі, але і большасць гасцей горада. Яна знаходзіцца на Прывакзальнай плошчы, складаецца з двух сіметрычна размешчаных пяціпавярховых жылых дамоў з адзінаццаціпавярховымі вежамі па вуглах. Архітэктурны комплекс гарадской брамы быў пабудаваны ў 1953 годзе ў стылі сталінскага класіцызму па праекце ленінградскага архітэктара Барыса Рубаненкі. І вось ужо шэсцьдзясят гадоў гэтая брама з'яўляецца першым, што бачыць кожны, хто выходзіць у горад з чыгуначнага вакзала, хай сабе за гэты час стары будынак Лібава-Роменскай чыгункі змяніўся новым гмахам з бетону і шкла.

Другая гарадская брама вядомая значна менш, бо звычайныя гараджане яе ніколі не бачылі. Яе рэшткі былі выяўлены падчас раскопак Мінскага замчышча, якія праводзіліся ў 1960 годзе пад кіраўніцтвам Эдуарда Загарульскага. Па выніках адзін з удзельнікаў экспедыцыі — Юрый Драгун — стварыў макет мінскай брамы, якая складалася з дзвюх вежаў і праезду паміж імі. Рэканструкцыя хутка стала шырокавядомай дзякуючы таму, што ўжо ў 1963 годзе была апублікавана ў навукова-папулярнай кнізе Загарульскага «Старажытны Мінск». Выданне прысвячалася 900-годдзю горада і мела велізарны для свайго часу наклад у 8 700 асобнікаў, а выява брамы з дзвюма вежамі ўпрыгожвала яе вокладку. Таму не дзіва, што на працягу двух наступных дзесяцігоддзяў менавіта гэтая рэканструкцыя стала адным з сімвалаў старажытнага Мінска. Яе можна ўбачыць на старонках многіх буклетаў, альбомаў і даведнікаў, прысвечаных сталіцы.

Тое, што рэканструкцыя Драгуна-Загарульскага не адпавядае рэчаіснасці, выявілася падчас новых раскопак мінскай брамы, якія праходзілі ў 1984 — 1985 гадах пад кіраўніцтвам Георгія Штыхава ў сувязі з будаўніцтвам станцыі метро «Няміга». Адзін з археолагаў — Юрый Заяц — прапанаваў некалькі новых навукова абгрунтаваных варыянтаў рэканструкцыі знешняга выгляду гарадской брамы, якія атрымалі агульнае прызнанне сярод навукоўцаў.

Але пры чым тут Язэп Драздовіч? Аказваецца, што ён можа мець самае непасрэднае дачыненне да мінскай брамы! Падчас свайго нядоўгага знаходжання ў Мінску ў 1919 — 1920 гадах Драздовіч працаваў у Беларускай вышэйшай жаночай школе, у літаратурна-выдавецкім аддзеле Народнага камісарыята асветы, а таксама быў мастаком-дэкаратарам у Таварыстве беларускага мастацтва. Вядома, што ў гэты час ён стварыў шэраг выдатных замалёвак цэнтра горада, якія сталі аднымі з найкаштоўнейшых гістарычных крыніц пра Мінск пачатку ХХ стагоддзя для некалькіх пакаленняў гісторыкаў, археолагаў і архітэктараў. Таксама ў гэты час Драздовіч плённа распрацоўваў гістарычную тэматыку і намаляваў серыю партрэтаў першых полацкіх князёў, а таксама цыкл малюнкаў, вядомы як «Тыпы гістарычнай беларускай будоўлі». Да гэтага цыкла блізкі і малюнак з назвай «Гарадзец».

Адсюль і пачынаецца самая цікавая частка нашай гісторыі. Справа ў тым, што Гарадзец Драздовіча — гэта паселішча, размешчанае на пагорку і ўмацаванае вастраколам з шэрагам вежаў. З аднаго боку пагорак абмывае рака, а з другога знаходзіцца нізіна, не зарослая дрэвамі, магчыма, балота. На пярэднім плане малюнка размяшчаецца брама, што складаецца з дзвюх вежаў, паміж якімі размешчаны праезд з пад'ёмным мостам і кратамі.


*Макет гарадской брамы летапіснага Менска. Рэканструкцыя Юрыя Драгуна і Эдуарда Загарульскага пачатку 1960-х гадоў.*


*Варыянты рэканструкцыі мінскай брамы Юрыя Заяца па выніках раскопак 1984 — 1985 гадоў.*

Выгляд намаляванага Драздовічам Гарадца і асабліва яго брамы надта нагадвае рэканструкцыю мінскай брамы, зробленую археолагамі ў пачатку 1960-х гадоў, дакладней, наадварот — рэканструкцыя пачатку 1960-х нагадвае малюнак Драздовіча. Адчуванне падабенства і нават тоеснасці Гарадца і Мінскага замчышча ўзмацняецца яшчэ і тым, што Гарадзец размешчаны ў такіх жа тапаграфічных умовах, як і Замчышча. Мала таго, за вастраколам Гарадца бачны храм, прычым размяшчаецца ён прыкладна ў тым месцы, дзе падчас раскопак 1949 года былі выяўлены муры недабудаванага мінскага храма пачатку XII стагоддзя.

Супастаўляючы гэтыя выявы, адразу ўзнікае пытанне: а ці не скарысталіся Драгун і Загарульскі на пачатку 1960-х малюнкам 1920 года? Такая думка не выглядае неверагоднай, калі ўлічыць, што Юрый Драгун быў добрым знаўцам беларускай гістарыяграфіі і мог ведаць і пра навуковую дзейнасць Язэпа Драздовіча, і пра яго малюнкі на гістарычную тэматыку.

Увогуле, цалкам верагодна, што на стваральнікаў рэканструкцыі мінскай брамы ў пачатку 1960-х гадоў маглі паўплываць і выява намаляванага Драздовічам Гарадца, і абрысы адзінаццаціпавярховікаў Барыса Рубаненкі на прывакзальнай плошчы, нават калі самі яны гэтага не ўсведамлялі. Але відавочна, што ні адно, ні другое не было для іх галоўным. Падставай для іх рэканструкцыі былі драўляныя канструкцыі, выяўленыя падчас раскопак на месцы праезду ў горад. А астатнія фактары, калі яны насамрэч існавалі і сапраўды ўсведамляліся Драгуном і Загарульскім, маглі ўспрымацца не больш як шчаслівы збег абставін.

Цікава іншае: адкуль Драздовіч мог ведаць, як праз чатыры дзесяцігоддзі археолагі ўявяць сабе браму летапіснага Менска? Адкуль ён мог ведаць, што ў горадзе мусіў быць храм і тым больш тое, дзе ён павінен быў размяшчацца? Хай сабе ва ўяўным Гарадцы храм драўляны, а ў Менску пачалі будаваць царкву з каменю, ды так і не дабудавалі. Хай Гарадзец абнесены простым вастраколам, а Менск быў умацаваны магутным валам. Хай у Гарадцы ёсць пад'ёмны мост паміж дзвюма вежамі, а ў Менску вежа над брамай была адна, ды і пад'ёмнага моста тады яшчэ быць не магло.

Але ўсё ж супадзенні ўражваюць. І не проста ўражваюць, але і не знаходзяць рацыянальнага тлумачэння. А тое, што Драздовіч на малюнку пад назвай «Гарадзец» адлюстраваў сваё бачанне Менска часоў Полацкага княства, сумненняў не выклікае. Зрэшты, першым на гэта звярнуў увагу Арсень Ліс у 1984 г. у сваёй выдатнай кнізе «Вечны вандроўнік», прысвечанай лёсу Язэпа Драздовіча. Арсень Ліс лічыў, што мастак проста не наважыўся назваць свой малюнак Мінскам, хаця маляваў менавіта яго. У выніку Арсень Ліс нават перайменаваў сам малюнак «Гарадзец», падпісаўшы яго рэпрадукцыю ў сваёй кнізе «Мінскім замкам». Але ж не варта забываць на тое, што калі кніга пабачыла свет, яе аўтар, натуральна, добра ведаў рэканструкцыю мінскай брамы Драгуна-Загарульскага, што існавала на той момант, і, відавочна, на яе арыентаваўся.

Дык адкуль жа Язэп Драздовіч ведаў, як мог выглядаць летапісны Менск? Ніадкуль. Не мог ён гэтага ведаць, бо першая навуковая праца, прысвечаная старажытнаму Менску, была апублікавана Зміцерам Даўгялам толькі ў канцы 1920-х гадоў. Мусіць, ён і не ведаў. Гарадзец мог проста прымроіцца Драздовічу ўва сне, таксама як яму бачыліся краявіды Месяца, Марса ды Сатурна. І гэтаксама скрупулёзна, як месяцовыя ці марсіянскія краявіды, быў пасля замаляваны і гэты гарадзец, ад якога засталося толькі замчышча на беразе Свіслачы.

А яшчэ, калі глядзіш на малюнак Гарадца, зроблены Язэпам Драздовічам у 1920 годзе, узнікае думка пра тое, што ніхто не можа прадбачыць, як паўплываюць яго ўчынкі і нават думкі ды летуценні на будучыню, у тым ліку і на будучыню цэлага мегаполіса.

*Паралелі*

# Літаратурная разведка паведамляе…

**Навошта еўрапейскаму выдаўцу напярэдадні самых значных кніжных кірмашоў наведвацца ў найбуйнейшыя міжнародныя выдавецтвы? Чаму праца літаратурных агентаў сёння становіцца ўсё менш запатрабаванай? Як наладзіць супрацоўніцтва з кніжнымі «разведчыкамі» за мяжой і атрымаць інфармацыю пра магчымасць набыцця ліцэнзій для перакладу? Адказы на гэтыя пытанні мы пачулі падчас чарговага семінара ў межах праекта Інстытута імя Гётэ ў Мінску «Павышэнне кваліфікацыі спецыялістаў выдавецкай справы». Тэма сустрэчы была вызначана наступным чынам: «Адкрыць кнігі: праца ў рэдакцыйным аддзеле нямецкага ўніверсальнага выдавецтва». У якасці рэферэнта была запрошана спадарыня Катрын Лідтке, рэдактар аднаго з самых вядомых гамбургскіх выдавецтваў — «Хофман унд Кампэ Ферлаг» (Германія).**

### УСЕ — У НЬЮ-ЁРК!

Напярэдадні найбуйнейшых кніжных выставак міжнародныя выдавецтвы ў Лондане, Нью-Ёрку становяцца сапраўдным месцам паломніцтва еўрапейскіх выдаўцоў. Падрыхтаваць глебу для падпісання дамоў, набыцця ліцэнзій падчас самой выстаўкі — надзвычай разумны крок. Спадарыня Катрын распавядае:

— Мае сэнс, канечне, перад Франкфурцкай выстаўкай, перад Лонданскай выстаўкай наведаць выдавецтвы ў тым горадзе, дзе яны праходзяць. Так мы будзем падрыхтаваныя да выстаўкі, будзем мець усю інфармацыю пра кнігі, якія нас цікавяць. Але арганізаваць такую сустрэчу надзвычай складана, бо перад выстаўкай у Франкфурце рэдактары самых розных выдавецтваў масава едуць у Нью-Ёрк, а тамтэйшым супрацоўнікам трэба займацца і іншымі справамі, а не толькі прымаць у сябе прадстаўнікоў еўрапейскіх выдавецтваў, якія да іх у госці прыехалі.

Праграма Франкфурцкай кніжнай выстаўкі скіравана хутчэй на дзелавое супрацоўніцтва ў кніжнай галіне, тут у асноўным прадаюцца і набываюцца ліцэнзіі на выданне і пераклад твораў. У той час як кірмаш у Лейпцыгу не такі буйны, ён разлічаны хутчэй на наведвальнікаў, і ў цэнтры ўвагі апынаюцца імпрэзы, прадстаўленне новых кніг. У Лейпцыгу прэзентуецца шмат праектаў з Усходняй Еўропы. Там вельмі шырокая праграма, прысутнічаюць аўтары. А паколькі ў нашым выдавецтве пабачыла свет аўтабіяграфія вядомага палітыка Міхаіла Гарбачова «Усяму свой час. Маё жыццё», то вясной гэтага года мы туды запрасілі самога шаноўнага аўтара. Гэта быў вялікі поспех. Да царквы, дзе ён выступаў, ужо за тры гадзіны да пачатку мерапрыемства людзі занялі чаргу, чарга была вялікая — праз палову Лейпцыга. На жаль, давялося дзверы царквы зачыніць, паколькі яна і так напоўнілася, і нават не ўсе ахвочыя змаглі трапіць на прэзентацыю. Гэта было мерапрыемства, пра якое напісалі многія газеты.



*Катрын Лідтке распавядае пра адметнасці працы рэдактара нямецкага выдавецтва.*

### НЕ ПРАПУСЦІЦЬ

Натуральна, выдаўцу, які працуе з перакладной літаратурай, важна адсочваць не толькі агульную сітуацыю на кніжным рынку замежных краін, але і ўвесь час быць у курсе навінак, а таксама мець інфармацыю пра кнігі, якія толькі рыхтуюцца да выхаду. Такую інфармацыю могуць прадаставіць спецыяльныя супрацоўнікі — літаратурныя «разведчыкі». Да прыкладу, выдавецтва «Хофман унд Кампэ Ферлаг» мае сваіх разведчыкаў у Парыжы, Лондане і Нью-Ёрку. Спадарыня Катрын распавядае:

— Як правіла, літаратурныя разведчыкі, якія працуюць на замежныя выдавецтвы, маюць сваё рабочае месца і самі сабе яго ўладкоўваюць. Адзін раз на тыдзень яны дасылаюць нам справаздачу. Разведчыца з Парыжа працуе толькі для нашага выдавецтва, а нашы супрацоўнікі ў Лондане і Нью-Ёрку знаходзяць кнігі не толькі для нас. Натуральна, яны могуць працаваць толькі з адным выдавецтвам з Германіі, бо ў іншым выпадку будуць ствараць штучную канкурэнцыю на рынку ліцэнзій. Але вельмі часта яны паралельна прадстаўляюць свае справаздачы выдавецтвам Польшчы, Бразіліі, іншых краін. Кожны з такіх разведчыкаў працуе з вялікай колькасцю выдаўцоў, таму што толькі так можна дастаткова зарабляць сабе на жыццё. Справаздачы яны пішуць на англійскай мове і рассылаюць іх ва ўсе выдавецтвы, з якімі разведчык заключыў дамову. Разведчыкі таксама арганізоўваюць сустрэчы на кніжных выстаўках, дамаўляюцца пра сустрэчы ў розных выдавецтвах, перад выстаўкамі яны ладзяць для нас перамовы ў кожнай краіне.

Праца з нашай разведчыцай у Парыжы арганізавана крыху па-іншаму. Яна працуе толькі з намі, таму яе справаздачы больш адпавядаюць профілю нашага выдавецтва. Яна нават не робіць уласна справаздачу, а проста тэлефануе і распавядае, калі знайшла нешта цікавае. Ці піша па электроннай пошце пра нейкі праект, які лічыць вартым увагі. Больш агульна арганізавана праца з разведчыкамі з Англіі і Амерыкі, таму што яны дасылаюць свае справаздачы розным выдавецтвам, у якіх могуць быць розныя праграмы. Таму ў іх справаздачах сустракаецца шмат назваў, якія для нас, да прыкладу, зусім не цікавыя. Але задача разведчыка ў тым, каб знайсці патрэбныя кнігі. І самы вялікі жах для яго — прапусціць патрэбнае выданне. Таму разведчыкі больш схільныя да таго, каб прыгадаць лішнюю кнігу, чым не звярнуць увагу на нейкае выданне, якое можа быць патэнцыяльна цікавым. Часам, канечне, гэта крыху раздражняе.

### АГЕНТЫ: ПРАБЛЕМЫ ІСНАВАННЯ

Самі выдаўцы, рэдактары маюць надзвычай мала часу на пошук новых аўтараў, тэм. А літаратурныя агенты па сутнасці і акцэнтуюць на гэтым увагу: скануюць газеты, праглядаюць папулярныя публікацыі ў інтэрнэце, шукаюць аўтараў і прапануюць рукапісы ў выдавецтвы. Натуральна, за большы ганарар. Гэта моцна злуе выдаўца. Але, як апынаецца, і ў агентаў жыццё не такое простае.

— Літаратурным агентам становіцца ўсё складаней працаваць, — падкрэслівае Катрын Лідтке. — Таму што ўсё часцей многія выдавецтвы, як англійскія, так і амерыканскія, прапаноўваюць свае кнігі адразу ў еўрапейскія выдавецтвы, без пасрэднікаў. Людзі, якія працуюць у аддзелах продажаў і ліцэнзій англійскіх і амерыканскіх выдавецтваў, звязваюцца з намі, рэдактарамі, і прапануюць набыць у іх правы. Ёсць выдаўцы, якія ўвогуле не жадаюць працаваць з агентамі і разведчыкамі, а імкнуцца напрамую кантактаваць з буйнымі еўрапейскімі выдавецтвамі. Напрыклад, бываюць такія абсурдныя сітуацыі, калі мне даводзіцца дасылаць нашаму разведчыку ў Нью-Ёрк кнігі, якія я атрымліваю ад амерыканскіх выдавецтваў, а яму яны не былі прадстаўлены.

Натуральна, агенцтвы самі могуць звяртацца да аўтараў і прапаноўваць набыць правы на выданне кнігі. І, на шчасце, яшчэ ёсць аўтары, у якіх пакуль няма агентаў, яны працуюць адразу з выдавецтвамі. Асабліва калі гаворка ідзе пра падрыхтоўку адразу некалькіх кніг. Натуральна, у такім выпадку агент не патрэбен.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота прадастаўлена**
**Інстытутам імя Гётэ ў Мінску**

# Грузінскае каханне беларускага паэта

**Анастасія ГРЫШЧУК**

Вось гісторыя, вартая экранізацыі: у сібірскай ссылцы сустракаюцца беларускі пісьменнік і грузінская актрыса, каханне дапамагае ім пераіжыць цяжкія гады выгнання і ўрэшце пара вяртаецца на радзіму пісьменніка.

Інстытут культуры Беларусі пачынае цыкл літаратурных чытанняў, накіраваных на вяртанне забытых імёнаў беларускай культуры. Першая імпрэза ў межах праекта прысвечаная незвычайнай сямейнай пары — пісьменніку Алесю Пальчэўскаму і актрысе Тамары Цулукідзэ.

Алесь Пальчэўскі нарадзіўся 16 студзеня 1905 года ў вёсцы Прусінава на Уздзеншчыне. Там жа прайшлі яго дзяцінства і юнацтва. У аўтабіяграфічным апавяданні «Сцежкі» ён узгадвае тыя часы: «Сям'я наша была з дзевяці чалавек: мама, тата, Марыля, Іван, Юзік, Уладзік, Вольга і я. Старэйшая сястра Ганна была ўжо замужам». Зразумела, што сялянская сям'я, у якой гадавалася шасцёра дзяцей, жыла бедна. Тым не менш бацькі паклапаціліся пра тое, каб хлопцы атрымалі адукацыю. Дзяўчатам пашанцавала меней.

Алесь Пальчэўскі вучыўся на рабфаку БДУ, потым — на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні той жа ўстановы. Навучанне скончыў у 1931 годзе і ўжо праз пяць гадоў — рэпрэсіраваны. Следства цягнулася амаль год. У «тым самым» 1937-м вынесены прысуд: восем гадоў у Ніжагародскай вобласці. Але гэта быў першы ўдар. І не самы моцны. Ад пісьменніка адвярнулася жонка. Яна афіцыйна адмовілася ад яго, хуценька выйшла замуж за іншага і, што горш за ўсё, перапісала на чужога, па сутнасці, чалавека адзінага іх з Пальчэўскім сына. Колькі намаганняў ні прыкладаў Алесь Восіпавіч, вярнуць цёплыя адносіны з сынам не атрымалася.

У 1946 годзе Алесь Пальчэўскі вярнуўся ў Беларусь. А ў 1949-м — зноў высылка, у Краснаярскі край. І трэба ж было такому здарыцца, што менавіта там ён напаткаў сваё шчасце — пазнаёміўся з жанчынай, якая заставалася з ім да самага канца і праводзіла ў апошні шлях.

Тамара Цулукідзэ — заслужаная артыстка Грузінскай ССР, празаік, драматург, крытык, перакладчык. Як «жонка ворага народа» (яе муж, вядомы рэжысёр А. Ахметэлі, быў расстраляны) з 1937 па 1946 год знаходзілася ў турмах, лагерах, на лесапавале, на земляных работах, працавала санітаркай, медсястрой. Адзінага яе сына выхоўвалі сваякі. Магчымасць убачыць роднае дзіця з'явілася толькі тады, калі хлопчыку споўнілася 16 гадоў. Але па дарозе да маці ён патрапіў пад колы трамвая і загінуў. Нават у трагедыях лёсу Алесь Пальчэўскі і Тамара Цулукідзэ падобныя.

Значнасць распачатага Інбелкультам праекта падкрэслівае той факт, што ў яго стварэнні бралі ўдзел Міністэрства культуры РБ і Пасольства Грузіі ў РБ. Сярод выступоўцаў былі рэктар інстытута Іван Крук, Першы сакратар Пасольства Рэспублікі Грузія ў Рэспубліцы Беларусь Анзор Меладзэ, дырэктар уздзенскай гімназіі Зінаіда Жукоўская, пісьменнік Уладзімір Ліпскі, заслужаны артыст БССР Віктар Скорабагатаў. Да таго ж, пачалася імпрэза выступленнем Веранікі Прадзед, адной з лепшых нашых цымбалістак.

Пачатак добры. Галоўнае, каб праект па вяртанні забытых імёнаў не абмяжаваўся аднымі толькі ўспамінамі. Так, абмяркоўвалася магчымасць выдання сумеснай кнігі Алеся Пальчэўскага і Тамары Цулукідзэ ў серыі «Беларускі кнігазбор», але нічога пэўнага пакуль сказаць нельга.

Тым не менш Іван Крук паабяцаў арганізаваць наступную сустрэчу ўжо ў гэтым годзе.

### Нататкі рамантычнага маркетолага



Кацярына СІМАН

# Фабрыка бестселераў

На шчасце ці на жаль, сёння большасць аспектаў нашага жыцця знаходзіцца пад кіраўніцтвам замежніка, якога завуць Трэнд. Творчасць творчасцю, але камерцыйны поспех ніхто не адмяняў.

Маргінальны падыход да ўласнай творчасці прыводзіць да таго, што жанравы раман аўтаматычна пераходзіць у катэгорыю «пазбаўлены інтэлектуальнасці і духоўнай значнасці». Менавіта гэты недахоп адзначаюць многія літаратурныя крытыкі і агенты, калі кажуць пра непапулярнасць айчынных аўтараў на замежным рынку. І калі крытыкі — людзі абсалютнай эмацыянальнасці, то агенты глыбей, чым усе астатнія, разумеюць адметнасці камерцыйнага поспеху. Бо па сутнасці, дзеля якой абстрактнай славы ні пісалі б аўтары, усё ў выніку вымяраецца сумай ганарару. І чым вышэйшы ганарар, тым вышэйшы працэнт узнагароджання літаратурнага агента. Таму яны і ведаюць лепш за астатніх, што такое бестселер.

Пытанне ў тым, як яны дасягаюць гэтага майстэрства. Спецыяльная адукацыя? І так, і не. Адны лічаць, што самыя лепшыя агенты — былыя рэдактары, якія за доўгія гады працы прачыталі горы разнастайных рукапісаў і з першых старонак могуць вызначыць якасць твора. Ды і нельга знайсці рэдактара без вялізнага нататніка з кіламетрамі кантактаў. Усё гэта спатрэбіцца ў новым, агенцкім жыцці. Поспех рукапісу залежыць ад таго, у якіх выдавецтвах агент — «свой чалавек», колькі ў яго «сувязей з грамадскасцю», з якой колькасцю кнігагандляроў ён «на кароткайназе». Калі лічыць у якасці пачатковага пункта, што агент курыруе і аўтарскія дамовы, і продаж правоў, і атрыманне пісьменнікам ганарару і працэнтаў ад продажаў кнігі, то атрымліваецца, што гэты чалавек павінен быць і юрыстам, і бухгалтарам, і… яшчэ бог ведае кім.

Пры гэтым для айчыннага рынку прафесія літаратурнага агента — амаль заморская экзотыка. Нават на расійскім выдавецкім полі толькі нядаўна з'явілася незалежнае літагенцтва *Banke, Goumen & Smirnova*. Да гэтага часу расійскую літаратуру на замежным рынку прадстаўлялі некалькі агентаў, якія жывуць за межамі краіны. Таму сёння Юлія Гумен і Наталля Смірнова — і першапраходцы, і манапалісты сярод агентаў.

Варыянтаў супрацоўніцтва аўтара і жорсткага свету выдавецкіх канцэрнаў ды груп — шмат. Як у любым бізнесе, тут ёсць і фанаты сваёй справы, і нядобрасумленныя дзялкі. Але нельга адмаўляць станоўчую ролю інстытута літагенцтваў і літагентаў. Яны выступаюць у якасці эталоннага балансіра, што ўраўнаважвае паток графаманства і сапраўднай літаратуры.

Не варта забывацца і на такі від дзейнасці, як субагентура. Староннаму назіральніку часам падаецца, што пераклады кніг здзяйсняюцца дзесьці там і самі сабой. Прыехалі выдаўцы і пісьменнікі на выстаўку, сустрэліся, пагутарылі — і кніга гатова. Перш чым адбываецца «сустрэліся-пагутарылі», здзяйсняецца вялізная праца з боку субагентаў, каб знайсці, зацікавіць выдаўца з іншай краіны і ўгаварыць яго набыць правы на пераклад. Канечне, прадаваць пераклад гатовага паспяховага твора нашмат лягчэй, чым да зор узносіць невядомы раман маладога пісьменніка.

Свет літаратурных агентаў жыве паводле сваіх законаў і правіл. Ён дапамагае выдавецкаму і ні ў якім разе не знаходзіцца дзесьці ўбаку ці ў падпарадкаванні. На постсавецкай прасторы гэтага свету практычна не існуе. Магчыма, у гэтым таксама хаваюцца вытокі айчынных праблем.

# Сонца нараджаецца з праўдай…

На 81-м годзе жыцця 15 чэрвеня 2013 г. пайшла ў лепшы свет беларуская пісьменніца Алена Кобец-Філімонава. Апошнія месяцы яна знаходзілася ў Маскве — у сына Дзмітрыя Філімонава…

Кастусь ХАДЫКА

Дачка пачынальніка беларускай савецкай драматургіі Рыгора Кобеца, яна прыйшла ў літаратуру з творамі, адрасаванымі дзецям. Першыя кнігі — «Казка пра месяц», «Читайка и Гуляйка», «Семь художников». Апошнія дзве аформіў славуты кніжны графік Барыс Забораў. І сёння, праз паўвека, гэтыя танюткія кнігі прыцягваюць цеплынёй, трапяткім настроем… Пасля ў Алены Кобец-Філімонавай быў перыяд знаёмства з Грэцыяй, куды яна патрапіла ў сувязі з камандзіроўкай мужа. І перыяд, варта заўважыць, плённы. У выніку нарадзіліся кнігі «В королевстве… но не сказочном», «Сказки старого Яниса». З навагрэчаскай пераклала на беларускую паэтычную споведзь Яна Рыцаса «Макронісас»…



Знешне някідкая, не з тых, хто часта друкуецца, Алена Рыгораўна ўсё ж зрабіла ў мастацкай, літаратурнай прасторы даволі шмат. Яна напісала праўдзівую аповесць пра трагедыю спаленай вёскі — «Жаваранкі над Хатынню». Сваё слова ў падтрымку гэтай кнігі выказаў у свой час і Васіль Быкаў. Напісаная па замове ўсесаюзнага выдавецтва, яна спярша пабачыла свет у Маскве. Пасля — і па-руску, і па-беларуску — выдавалася ў Мінску, а яшчэ — у перакладзе на татарскую мову — у Казані.

Але ж да тэмы Хатыні пісьменніца яшчэ будзе вяртацца і вяртацца. У выніку ўжо ў постперабудовачны час з'явіцца новая кніга з вельмі красамоўнай, гаваркой назвай — «Распятая Хатынь». Шкада, што выйшла яна зусім абмежаваным накладам — усяго 500 экзэмпляраў… Фактычна і крытыка прамаўчала, не заўважыўшы, што прыйшла да чытача выдатная, праўдзівая, душой і сэрцам напісаная кніга. І нямногія з чытачоў адкрылі для сябе пякучыя старонкі праўды… У 2004 годзе яшчэ адна кніга Алены Кобец-Філімонавай стала ўражлівай сустрэчай з чытачом — «Шлях да малітвы: Споведзь».

У апошнія гады пісьменніца шмат зрабіла для ўзнаўлення памяці пра бацьку — драматурга Рыгора Кобеца. Як вынік — выданне «Выбраных твораў» аўтара сцэнарыяў легендарных фільмаў 1930-х… Значнае месца ў тым томе займае эпісталярны раздзел. Нельга без хвалявання чытаць многія старонкі шчымлівай праўды. Аповед пра бацьку, акалічнасці яго творчага лёсу Алена Рыгораўна выклала, падсумаваўшы пошукі многіх гадоў, і ў арыгінальную кнігу «Калі ўцякала сонца»…

Зорка, знічка Алены Кобец-Філімонавай згубілася на небе, сіганула, бы імклівая ракета… Але ж застаецца памяць. Пра чалавека і пісьменніка, праўдзівага і сумленнага.

### Шляхі жыцця

# З роду рамантыкаў

Мікола Кутас — даўні сябар Ільянскай школы і музея «Вілейшчына літаратурная». Сяброўства замацавалася з першай сустрэчы ў далёкім 1994 годзе, калі вучні наперабой задавалі пытанні госцю, слухалі, а потым склалі кніжачку пра свайго земляка, якая і сёння захоўваецца ў музеі.

Роза ШЭРАЯ

Сустрэчы паўтараліся з рознымі вучнямі ў розныя гады, а пытанні былі прыкладна тыя ж самыя. Вучні цікавіліся, калі былі напісаны першыя вершы, ці паспрыялі захапленню паэзіяй урокі роднай мовы і літаратуры?

Мікола Сямёнавіч распавядаў, што паспрабаваў рыфмаваць у 4 класе. З тых вучнёўскіх вершаў нічога ў памяці не захавалася. Урокі роднай мовы і літаратуры фарміравалі не толькі густ і пачуццё прыгожага, але прывучалі да парадку, сістэмы.

— Пачатковыя класы я «штурмаваў» у Наваёскаўскай школе, — распавядаў наш зямляк. — Не любіў атрымліваць двойкі. Не столькі баяўся бацькі, колькі ўласнай бездапаможнасці. Калі двойка стаяла ўнізе аркуша, дык вырываў паперу паўкругам з гэтай праклятай адзнакай. Неяк паставілі за адзін дзень тры двойкі ў дзённік. Начаваць дамоў не пайшоў, залез у сена ў гумне аднакласніка.

Калі Мікола Кутас вучыўся ў старажытным Нясвіжы, у школе-інтэрнаце, прыйшло жаданне пісаць. Марыў стаць мараком, абавязкова капітанам. Захапляўся кнігамі пра падарожжы, паходы, бітвы, адкрыцці. Але, крыху пасталеўшы, зразумеў: мора не для яго. Пасля 11 класаў паступіў у Мінскі педагагічны інстытут імя Горкага.

Моладзевае атачэнне спрыяла развіццю прыроднага таленту. З асаблівай любоўю ставіўся да творчасці Якуба Коласа, бо з пакалення ў пакаленне ў іх родзе перадаецца гэтая пашана. Брат яго бабулі — Васіль Шчорс — сябраваў з маладым Кастусём Міцкевічам. Яны разам вучыліся ў Нясвіжскай семінарыі, будучы пісьменнік Колас неадночы бываў у доме Васіля (гэты старадаўні дом, пабудаваны Шчорсамі прыкладна ў 1905 годзе, Якуб Колас у трылогіі «На ростанях» называе «камяніцай», а самога Васіля вывеў у творы як Базыля Трайчанскага).

У 1967-м з юначым захапленнем слухаў вершы, якія чытала яму Жэня Янішчыц — віншавала з удалай падборкай ягоных твораў у «Чырвонай змене». Мікола Сямёнавіч да гэтага часу захоўвае падараваны ёю альбом з відамі Масквы, ліст ад яе і часопіс «Дзень паэзіі» за 1966 год з аўтографам.

Лёс назаўсёды звязаў Міколу Кутаса з Вілейскім краем, пачынаючы з педагагічнай практыкі ў Сцешыцкай школе. Ён нямала зрабіў карыснага ў гады дырэктарства ў Суднікоўскай школе, дэпутацтва ў сельскім Савеце, прафсаюзнай працы ў саўгасе «Абадоўцы», на пасадзе бібліятэкара.

Усё менш застаецца сведак даўніх гістарычных падзей, а запісаць успаміны пра іх вельмі важна. Мікола Кутас збірае і выкладае гэтыя расповеды ў друку. Дасведчаны бібліятэкар шмат увагі надае дзецям. Ладзіць чытацкія канферэнцыі, дыспуты, конкурсы на лепшы верш і мастацкае чытанне. У яго вершах і песнях жыве дух рамантыкі, шчырасці, цеплыні.

# «Выбух душы»

Наталля САВЕТНАЯ

Генадзь Пацыенка — аўтар каля 20 кніг і некалькіх соцень публікацый. У гэтым годзе стаў лаўрэатам Літаратурна-грамадскай прэміі «Лепшая кніга 2011 — 2013» (г. Масква) за выданне «Пастукаем па дрэве», быў узнагароджаны ордэнам імя С. А. Ясеніна, а таксама атрымаў званне лаўрэата конкурсу «Герой нашага часу» імя М. Ю. Лермантава (г. Масква) у намінацыі «Проза» за кнігу «Выбух душы».

Кнігі — гэта, перш за ўсё, Дух. Той, якім дыхае пісьменнік, яго народ, яго Радзіма, таму што «Родина — не воздух, это — Дух. / Он веком, он Богу лишь подсуден», — цалкам пагаджуся з паэтам Ізяславам Катляровым.

Кнігі пісьменніка Расіі і Беларусі Генадзя Пацыенкі «Пастукаем па дрэве» (2012) і «Выбух душы» (2007) асветлены менавіта такім жыватворным праменістым Духам. У анатацыі да першай кнігі сказана, што «спавядальнасць, крынічначыстасць настрой яго прозы з першых старонак перадаецца чытачу і не пакідае яго да поўнага прачытання кнігі. Гэта адкрыццё людзей і падзей, непракладзеная дарога ў мастацкай прозе». Анатацыя на другую адзначае неардынарны, абвостраны погляд аўтара, навізну яго свету, шчырасць адкрыццяў, якія падахвочваюць да развагі.

Тэматыка твораў шырокая і ў той жа час традыцыйная для рускай і беларускай класічнай літаратуры: маральная прыгажосць чалавека, вайна і мір, горад і вёска, прырода і тэхнічны прагрэс, звяры і людзі, гераізм і здрада, радзіма і чужына...

Кожная старонка кніг прасякнута болем, спачуваннем і верай у свой народ. Пісьменнік спрабуе аналізаваць гістарычны час і падзеі, сведкам якіх апынуўся. Міжэтнічныя войны, дэфіцыт тавараў, шапікі, запоўненыя замежным спіртам, беспрацоўе…

Знаёмая многім толькі па старонках падручнікаў «узнятая цаліна» ў аповесці «Пад стук колаў» ажывае зусім інакш, чым мы прывыклі ведаць. Суровая рэальнасць побыту, умоў працы, негатоўнасці арганізатараў прыняць эшалоны добраахвотнікаў, пераживанні живога чалавека, сэнс і каштоўнасць жыцця — вось што хвалюе аўтара, які здолеў адстаяць свой погляд на даўнія гістарычныя падзеі. Аднасіны гаспадара вясковай сядзібы і савы ў апавяданні «Подых крылаў» — прыклад кранальнага даверу і ўдзячнасці адзін аднаму паміж Божымі стварэннямі. Чалавек можа быць шчаслівы, абыходзячыся малым, сцвярджае пісьменнік, але без прыроды ён асуджаны на пагібель. Аўтар ніяк не можа змірыцца з фактам: чалавек, існаванне якога без прыроды немагчымае, сам жа прыроду губіць! Яна ж без чалавека — цалкам самадастатковая.

Няпросты у літаратуры я б назвала і тэму алкагалізму: тут лёгка сарвацца ў банальнасць. Генадзь Пацыенка, дзе спакваля, дзе прама, кажа пра страшную хваробу грамадства і асобы. Чаго варта яго апавяданне «Перапалох», дзе ён з гумарам апавядае чытачам гісторыю выгнання бабамі з вёскі адпускніка, які штодня адзначае з мужыкамі каля крамы і адпачынак, і жаніцьбу.

Імгненні нашага жыцця імчацца, выслізгваюць і знікаюць без вестак. Але не для Генадзя Пацыенкі. З яго лёгкай рукі нават імгненні працягваюць жыць на старонках кніг.

# Знакомые лица

**Анастасия ГРИЩУК**

Не совру, если скажу, что детские стихи Сергея Михалкова были очень популярны в советское время. Дело даже не в тиражах, а в любви читателя. Имя дяди Стёпы стало нарицательным — вот самый верный индикатор.

Не забывают Сергея Владимировича и сегодня. Книги его выходят с завидным постоянством в разных издательствах. В одном только «Харвесте» в прошлом году были выпущены три издания, и каждое — в особой серии: «Знакомые лица», «Про непослушных малышей» и «Азбука».

**«Знакомые лица»** стали ещё одним шагом в проекте студии «Союзмультфильм». Проект уникальный: впервые легендарные мультфильмы обрели книжную жизнь, в которой привычные иллюстрации заменила раскадровка анимационной ленты. В этой серии уже вышла сказка







«Аленький цветочек», история про Львёнка и Черепаху. Теперь же «реинкарнацию» пережили мультфильмы «Знакомые лица», «Миллионер» и «Сорока-наушница», поставленные по одноимённым басням Сергея Михалкова. Так, литературные произведения, пережив испытание экраном, вернулись «на страницы своя». Вообще, басни неплохие. Талант не спрячешь, это верно. Однако сегодня они выглядят неоднозначно. Скажем, история про Бульдога, которому богатая старушка оставила в наследство миллионы («Миллионер»), выглядит поучительно, если выводить следующую мораль: «Настоящее богатство — не в деньгах», или «Деньги — лучшее испытание характера», или «Не зазнавайтесь, состоятельные господа!» Но стоит только вспомнить, как хаяли в СССР «прогнивший капиталистический мир Запада», — очарование басни начинает рушиться. И вот мы видим не желание писателя предостеречь человека от происков Мамоны, но его праведный гнев в адрес «этих капиталистов». Да и действие разворачивается где-то за границей. Если же принять во внимание тонкие намёки в виде «Пятой авеню», авто марки «Кадиллак» и сами кадры из мультфильма, очевидным становится выпад против США.

В «Знакомых лицах» речь уже не идёт о врагах внешних. Здесь призывают бороться с внутренней гнилью общества. Под безобидной маской кота, полюбившего колбасы и паштеты и отрекшегося от старых добрых мышей, скрывается расхититель государственного имущества. В довольно грубой форме Сергей Михалков «поднимает забрало»:

*Когда бы у меня*
*читатели спросили,*
*О чём завёл я в этой басне речь,*
*Я им ответил бы,*
*что данный кот Василий*
*Жрал то, что должен был*
*стеречь!*

Крылов со своим Васькой, который слушает да ест, ни в какое сравнение не идёт.

Логичным завершением книжицы в таком свете становится басня про «Сороку-наушницу», которая повествует нам о буднях стукача. В комплексе получаем довольно точную картину минувших дней. Если для детей, во всяком случае, лет до 12, эта книга может оказаться грубоватой и даже страшной, то я бы не отказалась от неё для пополнения коллекции неординарных изданий. Лет через 50 книга станет раритетом, однозначно.

Совсем другой Сергей Михалков предстаёт перед нами в книге **«Про непослушных малышей».** За таким названием, казалось бы, может скрываться завуалированная история про жертв репрессий — ан нет! Всё чисто, чинно, благородно. Ещё бы — книга вышла в серии «Библиотека детского сада». Здесь собраны стихи про непослушных детёнышей — как человеческого, так и звериного рода: про девочку, которая плохо кушала; про норовистого лягушонка, сбежавшего из дома; про барашков, которые не хоте-




ли уступить друг другу дорогу на узком мостике, и в результате их постигла судьба Джека и Роуз… Истории увлекательные и поучительные. Венчают педагогический хорал бессмертные стихи про дядю Стёпу. Каким образом он попал в дурную компанию сорванцов — неясно. Но я была рада его встретить.

Самым-самым маленьким адресована **«Азбука»** с иллюстрациями В. Чижикова. Сначала малышу предлагают выучить алфавит в «Лесной академии» (написана по мотивам старинной детской песенки, как утверждает автор) вместе с муравьями, кузнечиками и прочими букашками. А потом перед ним разворачивается настоящая трагедия: «с печки азбука свалилась!» Воображение художника Чижикова поместило в историю двух мальчиков, один из которых почему-то напоминает Гарри Поттера. Посмотрите. Сами увидите.

Кстати, «Азбука» издана к 100-летию Сергея Михалкова.

# Большое собрание намёков

**Анастасия ГРИЩУК**




«Я благословляю сказки, надеюсь, и вы тоже, за то, что они хоть как-то скрашивают наш будничный мир!» Так говорил Чарльз Диккенс. То же могу сказать и я. И если вы с нами согласны, то не сможете пройти мимо книги сказок.

Правда, книга, о которой я вам расскажу, адресована самым маленьким читателям. Но не стоит отчаиваться! Ведь, если верить Клайву Льюису, каждый когда-нибудь дорастёт до такого дня, когда вновь начнёт читать сказки.

**«Сказки для малышей»** — это одно из тех милых сердцу изданий, которые хочется поставить на свою полку. Здесь собрано 17 народных сказок и произведения 11 авторов. Последних стоит перечислить: Александр Пушкин, Константин Ушинский, Сергей Михалков, Елена Агинская, Михаил Пляцковский, Владимир Степанов, Татьяна Комзалова, Евгений Пермяк, Екатерина Серова, Борис Житков и Екатерина Карганова. Два столетия русской авторской сказки под одной обложкой. И у каждого сказочника — особый стиль, слог, жанр.

С Пушкиным всё ясно без лишних слов. Скажем только, что в книгу вошла его «Сказка о золотом петушке». Константин Ушинский как самый что ни на есть неистовый педагог прививает детям любовь к животным — посредством рассказов, герои которых — кот Васька, лошадки, козлята, коровки и прочие. Сергей Михалков, как всегда, наблюдателен и аллегоричен. Елена Агинская рассказывает действительно «Весёлые истории». Порой не очень-то и детские. Судите сами:

*Енот под ёлочкой в тени*
*До выходных считает дни:*
*«Среда… четверг… суббота…*
*Эх, сбился я со счёта!»*

Михаил Пляцковский предлагает учиться уму-разуму вместе с утёнком Крякичем. Владимира Степанова отличает художественная обработка народных сказок. Его произведения можно было бы назвать фанфиками или, что не так обидно, ремейками. Писатель использует классические, старинные сюжеты, перекраивая их на свой манер. При этом действующими лицами оказываются всем известные, культовые для русской традиции герои — Баба-Яга и Иван-царевич, Василиса и Змей Горыныч, Соловей-разбойник и Кощей Бессмертный. Даже Лихо Одноглазое.

А вот сказки Татьяны Комзаловой новогодние, и в этом собрании смотрятся особенно, более сказочно. Их бы не сейчас читать, а спустя полгода, в канун Рождества или в Новогоднюю ночь.

Евгений Пермяк явно симпатизирует хулиганам и непоседам. В стихах Екатерины Серовой — трогательное внимание и забота о природе. Борис Житков литературен в самом лучшем смысле слова, а Екатерина Карганова занимательно пишет о приключениях зверушек.

Не меньшее разнообразие представлено в разделе народных сказок. Что удивительно (и приятно), вы не найдёте стандартного набора «репка-колобок-теремок». На этот раз составители подобрали сказки менее растиражированные — и более остроумные, живые. Некоторые из них — например, историю о ленивых стариках — можно было бы включать и в пособия для новобрачных. Доходчивее любой лекции.

Как говорится, сказка ложь, да в ней намёк.

А если серьёзно, каждому взрослому человеку следовало бы хотя бы раз в год перечитывать сказки. Ведь это то же самое, что «дома бываць часцей, каб не страціць святое штосьці». Это «Вечное возвращение», как сказал бы тот самый Фридрих Ницше. И, в конце концов, это просто приятно.

# Они спасут мир

Философ Вячеслав Стёпин поделил в своё время цивилизации на традиционные и техногенные. Строго говоря, не он первый, не он последний, но не в том суть. Важно другое: традиционная цивилизация, в основе которой — гармония с природой и принцип невмешательства, вряд ли сможет существовать в чистом виде. А техногенная, идолы которой — прогресс и наука, — тупиковая ветвь. Спасение — в синтезе. А будущее за людьми, для которых одинаково важны и мир науки, и окружающий мир. Человек, который будет внимателен не только к винтикам и болтикам, но и к беззащитным букашкам под своими ногами, представляется сегодня идеальным человеком. И этот идеальный человек уже существует. Правда, пока он, может быть, ходит в школу, но не успеем мы глазом моргнуть, как он вырастет. И дело будет за ним.

К чему эти высокие материи? К тому, что было бы неплохо развивать в детях любовь и к тому, и к другому, воспитать человека, способного жить и в традиционной, и в техногенной цивилизации. Что нам поможет? Ответ очевиден.

Мир устройств и механизмов раскрывает научно-познавательное издание **«Как это работает»**. В книге объясняется устройство и принцип работы 250 различных устройств, среди которых можно найти компьютер, кран, самолёт, пианино, кофеварку, фен, воздушного змея, доильный аппарат, интернет, радар, банкомат и даже — страшно подумать — блокировочный тест на алкоголь (знания на вырост, так сказать). Вообще, все термины







классифицируются по разделам: «Дом», «Город», «Досуг» и «Транспортные средства». Имеется алфавитный указатель. И огромное количество подробных и полезных иллюстраций.

Сторону природы представляет другое красочное и не менее познавательное издание — **«Легенды и чудеса океана»**. Зоны жизни в океане, легенды морских глубин, водные обитатели, их миграции и жизненные циклы, берега и скалы, сокровища океана, рифы и эстуарии — всё здесь. Но особое внимание уделяется хищникам (отрицательные персонажи привлекательны в любой литературе, даже научной). И в первую очередь акулам. Очень важно, что в отдельном разделе поясняется, почему океан находится в опасности и что нужно сделать для его спасения.

**Владимир ГОРЫНЬ**

# Уявілі? Малюйце!

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота аўтара**

«Ад самых маленькіх да трыццацігадовых: усе яны для мяне дзеці», — усміхаецца Святлана, распавядаючы пра сваіх выхаванцаў. Хутка будзе 20 гадоў, як яна кіруе студыяй выяўленчага мастацтва ў Палацы культуры Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода. Розныя дарогі наканаваў лёс яе першым вучням. Нехта па-ранейшаму жыве ў Мазыры, нехта, скончыўшы школу, паехаў з роднага горада. Большасць абрала справу, наўпрост не звязаную з творчасцю, а хтосьці атрымаў у Мінску спецыяльнасць мастака-паліграфіста, вучыцца на архітэктара... Ды незалежна ад выбару прафесіі, ад цяперашняга месца жыхарства «творчыя дзеці» Святланы Купрыянавай, пасталелыя самастойныя людзі, звязаны адной дарогай: той, што вядзе ў студыю. Сюды яны і тэлефануюць, і заходзяць, калі наведваюцца ў Мазыр да бацькоў; тут для іх заўсёды знойдуцца вольны мальберт і фарбы.

Пашанцавала студыйцам з настаўніцай. Гэта няцяжка зразумець, калі ведаеш і яе, і тое, як яна працуе з юнымі мастакамі. Тонкі псіхолаг-педагог, таленавіты творца, чалавек з усхваляваным успрыманнем навакольнага свету, свежым і мудрым поглядам на жыццё... Яе ўрокі фарміруюць у дзецях самастойнасць мыслення, падтрымліваюць свабоду выказвання, развіваюць дапытлівасць і творчую фантазію, вучаць абагульняць і адначасова зважаць на дэталі.

Чатырнаццаць гадоў таму Міхаіл Фінберг завітаў з аркестрам у свой родны Мазыр. Звярнуў увагу на выстаўку дзіцячага малюнка ў фае Палаца культуры нафтаперапрацоўчага завода. Уражаны маэстра запрасіў кіраўніка юных мастакоў паўдзельнічаць у пятым фестывалі «Музы Нясвіжа». Так нарадзілася традыцыя, і эмацыянальныя творы мазырскіх дзяцей цяпер неадменныя спадарожнікі нясвіжскіх імпрэз аркестра. Прычым да кожнага фестывалю студыйцы сур'ёзна рыхтуюцца, каб вобразны лад іх новай тэматычнай выстаўкі перагукаўся са зместам класічных музычных праграм. Святлана вышуквае гістарычную і мемуарную літаратуру, скіроўвае ўяўленне дзяцей да патрэбнай тэмы. Калісьці распавядала ім пра маладосць і сяброўства Янкі Купалы ды Якуба Коласа; пра Міхала Клеафаса Агінскага і яго «Паўночныя Афіны» ў Залессі; пра трагічны лёс Шапэна; знаходзіла звесткі пра фатальнае каханне Антонія Вівальдзі. Вынікам — лепшыя работы вучняў, адметныя глыбінёй, нестандартнасцю задумы, арыгінальнасцю кампазіцыі... Сёлета настройвала юных мастакоў на тэму «Беларусь — цэнтр Еўропы», і яны падзяліліся з гледачамі радасным, святочным успрыманнем сваёй краіны. Дарэчы, малюнкі выхаванцаў С. Купрыянавай два гады запар удзельнічалі ў міжнародным конкурсе жывапісу і графікі «На сваёй зямлі», адзначаліся ўзнагародамі.

Яе студыя — не артадаксальная мастацкая школа. Святлана Купрыянава не выстаўляе ў аўдыторыі вазачку ці кубак і не патрабуе маляваць з натуры канкрэтны прадмет. Не ўмешваецца ў недасканалую выяву, не «папраўляе» алоўкам ці пэндзлем, а проста гутарыць, задае пытанні, раіць, падказвае. Звяртаецца да дзіцячага ўяўлення і прапаноўвае адлюстраваць пэўны настрой, перажыванне, уласны жыццёвы ці далёкі гістарычны эпізод: «Паспрабуем намаляваць марку, а потым давайце намалюем шчасце». Вось так: уявім — і намалюем!



*Даша Дубрава, 17 гадоў «Беларусь — цэнтр Еўропы» (змяшаная тэхніка).*



*Сева Паляжакін, 13 гадоў «На сутыку стагоддзяў» (гуаш).*

# Зямля пад белымі крыламі

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

## Слова краязнаўцы



**Аляксандр ПРАНОВІЧ, дырэктар Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея, распавядае пра пошукі, звязаныя са знакамітым родам Бонч-Асмалоўскіх:**

— Перш за ўсё мы збіраем тое, што датычыць пухавіцкай зямлі. Самы галоўны будынак нашай установы знаходзіцца непадалёк ад Мар'інай Горкі, у аграгарадку Блонь, і месціцца ў сядзібным доме асветнікаў, рэвалюцыянераў-народнікаў Бонч-Асмалоўскіх. Тут пасля 1917 года была кантора саўгаса, жылі людзі. У 70-я гады мінулага стагоддзя заснавалі музей «Народнай Славы» дзяржплемзавода «Індустрыя». Пасля развалу Савецкага Саюза, калі гаспадарка не магла ўтрымліваць гэты будынак, вырашылі перамясціць сюды з вёскі Дукора раённы краязнаўчы музей. Ёсць у сённяшняй экспазіцыі звесткі пра былых уладальнікаў маёнтка. Адзін з прадстаўнікоў роду Бонч-Асмалоўскіх, Анатоль Іосіфавіч, быў знаёмы з Якубам Коласам, з Усеваладам Ігнатоўскім. У гэтым доме гасцявалі дэлегаты I з'езда РСДРП. Некаторы час жыў у маёнтку і вельмі вядомы раней рускі пісьменнік Яўген Чырыкаў. Прыязджала па шрыфт з Тамбова маладая Марыя Спірыдонава. Не міналі сядзібу і рэвалюцыянеры Судзілоўскія. Бацька Максіма Багдановіча, калі працаваў настаўнікам у Ігуменскім павеце, таксама завітваў сюды. Словам, гэты дом памятае шмат цікавых і знакамітых асоб.

Калі мы пачалі весці пошукавую работу, пра гэтую сям'ю ў нас ужо былі некаторыя матэрыялы, што дапамагло стварыць экспазіцыю пра Бонч-Асмалоўскіх. Потым пазнаёміліся з рускай пісьменніцай Марынай Андрэеўнай Бонч-Асмалоўскай, праўнучкай Анатоля Іосіфавіча і ўнучкай Глеба Анатольевіча. Дзякуючы ёй мы сабралі вялікую колькасць матэрыялаў, а гэтай вясной яна прапанавала нам забраць мэблю з кватэры ў Санкт-Пецярбургу, дзе жыў яе дзед, дзе нарадзіліся яе бацька Андрэй Глебавіч і яна сама. Марыя Андрэеўна мяркуе, што частка гэтай мэблі ў пачатку XX стагоддзя была вывезена адсюль у Паўночную сталіцу. Так у нас з'явіліся рабочы стол Глеба Анатольевіча, вялікая шафа, трумо, камода, абедзенны стол, крэслы — поўнасцю абставілі пакой мэбляй XIX стагоддзя, якая перажыла блакаду і звязана з гісторыяй гэтай сям'і.

Гэты пакой у Блоні прысвечаны Глебу Анатольевічу Бонч-Асмалоўскаму, вучонаму-антраполагу, археолагу, доктару гістарычных навук. У Вялікай савецкай энцыклапедыі пра яго ёсць артыкул. Дарэчы, разам з беларускім археолагам Канстанцінам Палікарповічам ён даследаваў Віцебшчыну, усходнюю частку Магілёўшчыны і Смаленшчыны і даказаў, што людзі, якія з'явіліся на тэрыторыі Беларусі, жылі не ў ямах, як пісалі раней, а ў драўляных збудаваннях.

## Музейны ўнікат

# Ваза для выратавальніцы

Ваза, зробленая на пачатку Вялікай Айчыннай вайны з гільзы артылерыйскага снарада часоў Першай сусветнай, захоўваецца ў Смаргонскім гісторыка-краязнаўчым музеі.

**Ала СТРАШЫНСКАЯ, фота аўтара**

Па металічным корпусе віецца вывя ці то вінаграднай лазы, ці то стылізаванага дрэва жыцця. Сімвалічна і кранальна. Ніхто не ведае аўтара гэтага мастацкага твора. Вось што распавядае пра ўнікальны экспанат галоўны захавальнік музейных фондаў Смаргонскага музея Павел Картавік:

— Захапіўшы Смаргонь, немцы адразу размясцілі ў горадзе канцэнтрацыйны лагер, які знаходзіўся на тэрыторыі цяперашняга бальнічнага гарадка. Вязняў, пераважна палонных чырвонаармейцаў, фашысты кожны дзень ганялі на будаўніцтва чыгункі. Калі іх, галодных і нямоглых, вялі калонай праз цэнтр Смаргоні, мясцовыя жыхары, хто чым мог, дапамагалі пакутнікам.

Калі ў ахове былі «аўстрыякі» ці «гішпанцы», як называлі іх месцічкоўцы, то можна было і бліжэй падысці, каб з рук у рукі перадаць клункі з ежай. Калі ж калону ахоўвалі немцы, то мала хто адважваўся наблізіцца да яе. Тады людзі здалёк кідалі скруткі з хлебам, печанай бульбай ці іншымі няхітрымі стравамі, бо злосныя канваіры маглі і прыкладам стукнуць, і стрэліць.

Жанчына, што прынесла ў музей гэтую вазу, атрымала яе ў знак удзячнасці ад палоннага чырвонаармейца, якому часцяком прыносіла пакункі. Гэты знясілены, учарнелы чалавек, напэўна, нагадаў ёй кагосьці з блізкіх. А можа, проста добрая хрысціянская душа не магла заставацца абыякавай да чужога гора. Некалькі разоў за сваю дабрыню кабета атрымлівала прыкладам у спіну, але ўсё адно імкнулася перадаць ежу палоннаму салдату.

Аднойчы, калі будаўніцтва чыгункі набліжалася да заканчэння, мужчына, узяўшы з рук выратавальніцы мяшэчак з ежай, хуценька перадаў ёй металічны прадмет і, вінавата ўсміхаючыся, прамовіў, што нічым больш не можа аддзячыць ёй, як толькі гэтай вазай, зробленай уласнаручна з гільзы. І дадаў на развітанне, што ён родам з Волгі. Больш яны ніколі не бачыліся. А ваза доўга стаяла на самым пачэсным месцы ў доме, пакуль гаспадыня не вырашыла перадаць яе ў раённы музей.



# Дазволена даследаваць усім

**Сяргей МАРТЫНКЕВІЧ, фота аўтара**

Падпалкоўніка запасу Уладзіміра Слесарава ведаюць у Барысаве не толькі як паспяховага бізнесмена, але і як дабрачынцу. Менавіта яго намаганнямі быў вернуты да жыцця паўразбураны дом вядомага бібліяфіла і землеўладальніка, мецэната канца XIX — пачатку XX стагоддзя Івана Каладзеева, які жыў у Барысаве стагоддзе таму.

Гэты незвычайны чалавек займаўся зборам матэрыялаў пра вайну 1812 года і прысвяціў сваё жыццё ўшанаванню яе малавядомых старонак, а менавіта тых падзей, якія адбываліся ў Барысаве, на Бярэзіне, у вёсцы Студзёнка, дзе канчаткова былі разгромлены войскі імператара Напалеона. У 1901 годзе Каладзееў дамогся таго, што на месцы пераправы праз Бярэзіну ўсталявалі памятны знак. Праз два гады ён ініцыраваў першую ваенна-гістарычную экспедыцыю.

Але больш за ўсё Каладзееў быў вядомы ў Расіі як калекцыянер. На свае сродкі сабраў унікальную калекцыю экспанатаў, прысвечаных Айчыннай вайне 1812 года. На пачатку мінулага стагоддзя яна была найбуйнейшай у Расіі і дзякуючы публікацыям у замежных каталогах лічылася адной з самых вядомых у Еўропе. У адпаведнасці з тастаментам даследчыка пасля яго смерці ў 1914 годзе калекцыю перадалі ў Маскву, у гістарычны музей. Сярод заслуг Каладзеева — будаўніцтва пасада ў Нова-Барысаве, а таксама закладка праваслаўнага храма. Яго імя носіць Барысаўская цэнтральная раённая бібліятэка. Як патрыёт горада ён заслужыў, каб нашчадкі не забывалі пра яго.

Для Уладзіміра Слесарава дзейнасць яго земляка — узор дабрачыннасці, прыклад таго, як можна выкарыстоўваць гістарычную спадчыну для развіцця культуры, турызму, папулярызацыі роднага краю, выхавання патрыятызму. Выхадзец з Барысаўшчыны добра ўсвядоміў, што родная зямля з'яўляецца сапраўдны невычэрпнай крыніцай для фарміравання духоўна багатай асобы.

Пасля заканчэння Новасібірскага вышэйшага ваеннага палітычнага вучылішча лейтэнант Слесараў атрымаў прызначэнне ў Туркестанскую ваенную акругу. Служыць давялося ў мотастралковай часці на пасадзе намесніка камандзіра роты па палітчасці. Праз год у складзе 201-й мотастралковай дывізіі ён ужо ў Афганістане. Два гады службы ў баявых умовах сталі сур'ёзнай школай. Асабісты ўдзел у сутыкненнях з душманамі, паранені і страта калег, адпраўка на радзіму грузу № 200 — усё гэта было ў жыццёвым раскладзе маладога афіцэра ў тыя гарачыя дні.



Уладзімір Слесараў.

У Афганістане яму давялося змагацца за маральны дух і вытрымку салдата. Не толькі словам. Часцей — справай і асабістым прыкладам. Толькі так можна было заслужыць павагу ў калег і падначаленых. А да зампалітаў у баявых умовах патрабаванні былі асаблівымі. Аўтарытэт партыі ўжо імкліва падаў, і многія пазіралі на афіцэраў гэтай катэгорыі як на аматараў размаўляць і нічога не рабіць. Уладзімір Слесараў за спіны таварышаў не хаваўся і даказаў, што ў яго словы са справай не разыходзяцца. Званне старшага лейтэнанта яму прысвоілі датэрмінова. Два ордэны і некалькі медалёў сталі годнай адзнакай заслуг афіцэра. А ўсяго падчас службы ў Афганістане яму давялося ўдзельнічаць у 52 баявых аперацыях.

Пасля звальнення ў запас і распаду СССР Уладзімір Слесараў заняўся бізнесам у родным горадзе, бо іншага занятку проста не было. Неяк зусім натуральна прыйшла думка пра развіццё турызму, прыцягненне ў Барысаў аматараў гісторыі. Дом Каладзеева ў савецкія часы не ўвайшоў у пералік гістарычных аб'ектаў. Можа, таму, што Іван Хрысанфавіч быў землеўладальнікам і наогул лічыўся не бедным чалавекам. Пасля яго смерці мясцовыя ўлады выкарыстоўвалі будынак для розных мэт, пакуль ён не стаў нікому не патрэбны з-за дрэннага стану. Рамонт выратаваў яго ад поўнага знікнення. Сам Уладзімір Слесараў сёння не здзіўляецца, што ён, некалі член партыі і палітработнік, уклаў асабістыя сродкі ў рэстаўрацыю памешчыцкай сядзібы.

— Планавалі заняцца рэстаўрацыяй яшчэ ў 1999 годзе, — распавёў Уладзімір Слесараў. — Але былі цяжкія часы, ды і юрыдычнай падставы для рамонту не існавала. Цяпер мы выкарыстоўваем будынак на падставе Ўказа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з умовай таго, што ўводзім аб'ект у эксплуатацыю, ствараем экспазіцыю, а затым карыстаемся будынкам.

Цяпер Дом Каладзеева мае некалькі выставачных залаў, у якіх ужо часткова ўзноўлены інтэр'еры ў стылі XIX стагоддзя. На сценах — карціны і гравюры часоў Айчыннай вайны 1812 года. У тым ліку калекцыя копій партрэтаў рускіх і французскіх палкаводцаў. Вялікую цікавасць у наведвальнікаў выклікае выстаўка карыкатур на імператара Напалеона. А нядаўна сюды паступілі работы навучэнцаў Барысаўскай дзіцячай мастацкай школы, якія дэманструюць дасягненні юных талентаў. Узнаўляецца і гістарычная бібліятэка. Як у паўнавартасным музеі, тут з часам будуць прадстаўлены ўзоры абмундзіравання вайскоўцаў, халоднай і агнястрэльнай зброі.

Але галоўнае, над чым сёння працуе Уладзімір Слесараў са сваёй камандай, — вяртанне калекцыі Каладзеева. Праз Міністэрства культуры Беларусі накіравалі запыты ў Расію, у аналагічнае ведамства, дзе з разуменнем паставіліся да просьбы беларускіх калег. Першыя дваццаць экспанатаў былі аблічбаваны і перададзены ў Барысаў. Цяпер яны ўпрыгожваюць новы культурны аб'ект горада. Вялікую дапамогу ў падборы матэрыялаў аказалі супрацоўнікі Ваенна-гістарычнага музея Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі, пасольства Расіі.

— Нам даслалі прыкладнае апісанне ўсёй калекцыі Каладзеева, — зазначыў Уладзімір Сцяпанавіч. — Яна велізарная і будзе аблічбоўвацца яшчэ не менш як 10 гадоў. Думаю, сёлета мы значна папоўнім экспазіцыю і зможам зрабіць яе досыць цікавай для наведвальнікаў. Жыхары і госці Барысава змогуць прыходзіць сюды, займацца вывучэннем гісторыі. У Каладзеева было адно правіла: ён дазваляў усім працаваць, весці даследаванні ў сваім доме. Мы гэтую традыцыю захаваем.

Вакол падзей 1812 года ў Барысаве існуе шмат легенд. Хтосьці падчас купання ў Бярэзіне знайшоў залатога арла. Ён быў перададзены ў Барысаўскі краязнаўчы музей. Гэта выклікала ўсплёск публікацый у друку наконт рускага золата, якое вывезлі войскі Напалеона з Масквы. На скрыжаваннях дарог, на закінутых могілках скарбашукальнікі мараць знайсці артэфакты вайны 1812 года. Летась у наваколлях Студзёнкі працавала навуковая экспедыцыя з Францыі, якая займалася раскопкамі і пошукамі слядоў стаянак французскіх войск. Таму Уладзімір Слесараў упэўнены: адкрыццё Дома Каладзеева — толькі пачатак вялікага шляху. Ідучы па слядах знакамітага калекцыянера і мецэната, ён збіраецца ствараць новыя турыстычныя маршруты па памятных мясцінах горада і раёна.

# Экспедыцыя па лета

Эвеліна ШЧАДРЫНА


Фота Вячаслава Калацэя

Падчас абраду «Ваджэнне і пахаванне Стралы».

У чацвер Сёмушнага (Траецкага) тыдня Веткаўскі раён Гомельскай вобласці штогод ператвараецца ў своеасаблівую Мекку для фалькларыстаў з Беларусі, блізкага і далёкага замежжа. Справа ў тым, што сталыя жыхары адразу некалькіх мясцовых вёсак адначасова са святкаваннем праваслаўнага Ушэсця ладзяць «Ваджэнне і пахаванне Стралы» — архаічны абрад, які, як лічаць, замыкае веснавы цыкл традыцыйнага календара і распачынае летнія святы на Падняпроўі. На Веткаўшчыне існуе перакананне, што дзеянні, якія выконваюцца ў час абраду, захоўваюць ураджай ад агню пажараў, небяспеку якіх нясуць летнія маланкі, даюць долю і дабрабыт у наступным годзе.

Разам са стракатай грамадой загадчыкаў на «Страле» вёсак Стаўбун і Неглюбка прысутнічалі і студэнты спецыялізацыі «Этнафоназнаўства» з Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. З удзельнікамі экспедыцыі — студэнтамі і загадчыкам кафедры этналогіі і фальклору Вячаславам Калацэем — мы пагутарылі «па гарачых слядах» вандроўкі.

— Існуе меркаванне, што выязджаць на фальклорную практыку ў добра даследаванае месца нерацыянальна, тым больш калі яно нагэтулькі вядомае, як вёскі Веткаўшчыны. Маўляў, усё даўно запісана, прааналізавана і нават выдадзена на кружэлках Пушкінскага дома ў Санкт-Пецярбургу. Беларуская спеўная традыцыя — унікальная, выданні карыфеяў беларускай этнамузыкалогіі, напрыклад, Зінаіды Мажэйка, маюць лепшыя музычныя музеі Еўропы. Я ведаю, што большасць студэнтаў — спевакі, у сувязі з гэтым пытанне да ўдзельнікаў экспедыцыі: што вам цікавей — ведаць, як спяваюць, ці ўмець спяваць самім?

**Студэнты:** — Вядома, нам трэба спяваць самім, гэта ж наша прафесія. Таму ўражанняў, як кажуць, «паўнютка падвода». Мы шмат слухалі аўтэнтычных аўдыёзапісаў на занятках, але ж праслухоўванне «жыўцом» не заменіць аніякая плёнка.

— А як мяркуюць выкладчыкі?

**Вячаслаў Калацэй:** — Студэнты, фактычна, ужо адказалі: мы ездзілі не па ноты. Зводзіць фальклор, традыцыйную культуру да «голага» нотнага ці літарнага матэрыялу, ці рафінаваных «песенек» і «казачак» — не проста гвалт з яго прыроды, а з боку гуманітарыяў увогуле нешта непаразумелае. Пра «паэтыку» народнай творчасці, «культурны кантэкст», як і пра «тэксталогію» і «семіётыку», напісаны горы кніг. Але веды трэба «матэрыялізаваць» і ўводзіць ва ўжытак, таму непасрэдныя назіранні тут нічым не заменіш.

— Ці былі для вас карыснымі веды пра «культурны кантэкст» у апошняй экспедыцыі?

**Студэнты:** — Мы не толькі запісалі спеўны матэрыял, але і даведаліся пра тое, што ўласна падчас Ушэсця незаўважна: якім чынам жыхаркі вёсак развучваюць песні — т. зв. «нефармальную адукацыю», без спецыяльна арганізаванага працэсу навучання; у якім узросце пачалі спяваць (у 7 — 8 од яны ўжо ведалі па некалькі песень, якія маглі выканаць сольна).

**Вячаслаў Калацэй:** — Калі ўлічыць сталы ўзрост спявачак і, адпаведна, добрую захаванасць галасоў (што звычайна характарызуе вакаліста з добрай, граматнай вакальнай школай), гэтым знята шмат пытанняў пра прыдатнасць навучання дзяцей беларускай спеўнай манеры. Гэта ўжо матэрыял для этнапедагогікі і толькі адзін з прыкладаў плёну ведаў пра «культурны кантэкст». Некаторыя звесткі, што мы здабылі ў экспедыцыі, дазваляюць знітоўваць «Стралу» як варыянт «Зялёных святкаў» з рэшткамі культаў урадлівасці і продкаў, якія характэрны для першых старажытнаеўрапейскіх земляробаў.

— Напрыклад...

**Вячаслаў Калацэй:** — Наколькі я ведаю, ніхто з фалькларыстаў так і не давёў, навошта ўдзельнікаў свята (як нам растлумачылі жанчыны — асабліва маладых і тых, хто на ім у першы раз) кладуць-«хаваюць» у жыта і потым абвязваюць жгутамі з зяляніны. Магчыма, гэта — своеасаблівая «ініцыяцыя», якая імітуе «нараджэнне» асобы ці яе душы ў сакральным свеце праз улонне плоднай зямлі. Нешта падобнае яшчэ сёння магчыма назіраць у індыйскай правінцыі Мандурай, дзе кожную вясну імітуюць «прыкопванне» моладзі, каб праз гэтыя дзеянні ўвайсці ў кантакт з мясцовымі багінямі Марыаман і Каліман. І мець магчымасць задаволіць тыя патрэбы людзей (як абавязковага кампанента біяцэнозу), якія «кантралююць» плодныя, стваральныя бакі прыроды (якія першыя земляробы і жывёлаводы абагаўлялі ў матрыярхальных культах) — нараджэнне дзяцей, выспяванне раслін, нязменнасць прыродных і ўзроставых цыклаў.

— А што найбольш уразіла?

**Студэнты:** — Ды ўсё, што пабачылі, — памяць на жыццё. І шчыльныя шэрагі шэсця ў Стаўбуне пад «Як пушчу стралу», і крывы танок у Неглюбцы, і выкачванне ў жыце, і пахаванне прадметаў-сімвалаў, і традыцыйныя строі выканаўцаў. Ведаеце, пасля сустрэчы ў хаце са спявачкамі з вёскі Стаўбун выходзілі як п'яныя. Гэта быў своеасаблівы «культурны шок». Якія там дыскі?! Ёсць крылаты выраз: «Пабачыць Парыж і памерці» — напэўна, гэта пра нашу сустрэчу.

# «Як пушчу Стралу…»

Старажытны абрад «Ваджэнне і пахаванне Стралы» адрадзілі і ў вёсцы Тажылавічы, што на Бабруйшчыне.

Вольга СЕМЧАНКА

Што ж такое «Страла» і навошта яе «вадзіць» і «хаваць»? Нашы продкі верылі, што бог грому і маланкі Пярун ездзіць па небе на вогненнай калясніцы і кідае свае стрэлы-маланкі ў нячысціка. Часам маланкі трапляюць у дрэвы (часцей у дуб), будынкі і нават у людзей. Пажар ад Перуновай маланкі — святы, яго не тушылі зусім або залівалі малаком. Чалавек, забіты навальніцаю, лічыўся Божым абраннікам і трапляў у рай. Але такога «гонару» ўсё ж імкнуліся пазбегчы — выкарыстоўвалі ахоўную магію. Якраз з жаданнем залагодзіць грознага Перуна, адвесці яго стрэлы ад вёскі і звязаны абрад «Ваджэнне і пахаванне Стралы».

— Гэты абрад не характэрны для нашага рэгіёна, ён распаўсюджаны збольшага на Палессі, на Магілёўшчыне ж бытуе ў рэгіёнах, блізкіх да Гомельшчыны, прынамсі, у некаторых вёсках Бабруйскага раёна, часам яго праводзяць у Глускім раёне, — зазначае вядучы метадыст Магілёўскага абласнога метадычнага цэнтра народнай творчасці Таццяна Мамона.

Каб паназіраць за праведзеннем абраду, мы завіталі ў вёску Тажылавічы Бабруйскага раёна. З даўніх часоў, на Ушэсце, пасля таго, як заканчвалася служба ў царкве, вяскоўцы збіраліся для праведзення абраду. Абышоўшы вёску, яны скіроўваліся ў поле, дзе і адбываліся асноўныя абрадавыя дзеянні: спевы, карагоды, гульні і качанне па зямлі.

Адметна, што ў нашы дні ў Тажылавічах гэты старажытны абрад фактычна атрымаў новае жыццё. У 1996 годзе старасць вёскі Валянціна Мельнічонак і загадчыца Ламбаўскага клуба-бібліятэкі Мая Ісаева правялі даследчую работу ў сваёй вёсцы, сабралі звесткі пра абрад і асаблівасці яго праведзення. Жанчыны спярша запісалі канву абраду на матэрыяле вёскі Панкратавічы Бабруйскага раёна, а потым даведаліся, што «Стралу» вадзілі і ў Тажылавічах. І з цягам часу атрымалася аднавіць даўнюю традыцыю. Больш за тое, нам паказалі дом, у які год 10 таму сваёй стралой трапіў Пярун, што сталася прычынай пажару. З таго часу маланкі ў вёску не білі — магчыма, старажытная магія сапраўды дзейнічае.



Удзельніцы старажытнага абраду ў вёсцы Тажылавічы.

І вось абрад пачынаецца. Валянціна Мельнічонак склікае людзей, падыходзячы да хат і граючы на гліняной свістульцы. Працэсія са спевамі рушыць да сельскага клуба. Прыйшоўшы на месца, удзельнікі абраду пачынаюць вадзіць лінейныя і кругавыя карагоды. Паваджзіўшы «Стралу», жанчыны і дзяўчаты пачынаюць яе «хаваць». Яны хаваюць дробныя асабістыя рэчы, грошы ў зямлю, прыгаворваючы: «Хаваю свой грабеньчык, каб у мяне ўрадзіў добра ячменьчык», «Я схаваю грошы, каб ураджай быў харошы», «Я хаваю лісточак, каб ка мне прыляцеў мой суджаны галубочак»... Дарэчы, раней за гэтым працэсам цішком назіралі хлопцы і потым імкнуліся знайсці закапанае — сабе на шчасце.

Пасля ўдзельнікі абраду пачынаюць вясёлыя гульні. Гулянне, як распавядаюць, магло цягнуцца аж да вечара — пакуль людзі не стомяцца. Кабеты ўпэўненыя, што перадаць моладзі гэтую спадчыну — абрады, гульні, спевы, касцюмы — задача надзвычай важная і, па сутнасці, выканальная, было б каму перадаваць. Напрыклад, мясцовыя дзяўчаткі актыўна цікавяцца спевамі, абрадамі, гульнямі, ахвотна стасуюцца з удзельніцамі фальклорнага гурта.

# Свята жыцця і агню



«Сонцаварот» у Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту: купальскае шэсце.

Марына ВЕСЯЛУХА, фота аўтара

Старажытнае Купалле, адно з галоўных свят у летнім календары, адзначылі ў Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту. Святкаванне адбылося і на старажытным замчышчы ў Ракаве. Хоць і ў Ракаве, і ў в. Азярцо наведвальнікі свята традыцыйна віталі Сонца, самі імпрэзы прайшлі па розных сцэнарыях.

У старажытнасці Купалле лічылася святам Сонца і было прымеркавана да дня летняга сонцастаяння, калі найбольшага росквіту дасягалі жыватворныя сілы прыроды. Адметна, што старажытная традыцыя вітання Сонца ў беларускага народа ў амаль архаічным выглядзе існавала да пачатку XX ст. І, па сутнасці, усе асноўныя адметнасці свята захоўваюцца і сёння, але ўжо ў рэканструяваным купальскім абрадзе.

Нездарма купальскія рытуалы суадносяцца з агнём (зямным і нябесным — Сонцам, прадстаўленым у Купаллі колам) і вадой, якія выступаюць у міфах як брат і сястра. Цэнтральнае месца ў абрадах і гульнях традыцыйна займала купальскае вогнішча. Купальскія агні, верагодна, увасаблялі сонца і надзяляліся сілай уплываць на ўраджай і праганяць смерць. Пры агні гатавалі абрадавую вячэру: яечню, верашчаку, варэнікі. Вакол вадзілі карагоды, спявалі купальскія песні. Свята характарызавалася комплексам абрадаў, павер'яў, любоўнай і аграрнай варажбой. Яшчэ днём дзяўчаты збіралі купальскія зёлкі, што, лічылася, мелі асаблівую лекавую моц. Частку іх пакідалі на лекі, на спажыванне ў ежу, некаторыя ўтыкалі ў сцены хаты і гумна, з іншых плялі вянкі.

Але вернемся да сучаснасці. Спачатку завітаем на свята «Сонцаварот», што прайшло ў Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту. Адну з галоўных задач свята арганізатары вызначылі наступным чынам: «Яго правядзеннем мы жадаем узнавіць вечную повязь часоў і пакаленняў у працэсе пераемнасці беларускіх народных традыцый». Думаецца, мэта свята была цалкам дасягнутая. Тут можна было сплесці вянок, паспяваць купальскія песні разам з фальклорнымі калектывамі «Страла», «Талака», «Кроса», «Этнасуполка» кафедры этналогіі і фальклору Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, а таксама гуртом дударскай музыкі і этнічных спеваў «Ветах», паслухаць канцэртную праграму фальклорных гуртоў Міншчыны. На майстар-класе Зміцера Сідаровіча — навучыцца скакаць народныя танцы. Адной з самых відовішчных частак свята стала купальскае шэсце, якое папярэднічала містэрыі распальвання вогнішча, услаўленню Купалкі.

Шкада толькі, што запланаваная этнадыскатэка, падчас якой і можна было выпрабаваць свае ўменні, не адбылася, а вогнішча, «намоленае» доўгімі карагодамі, напрыканцы свята і ўвогуле было пакінута без увагі вядучых.

Святкаванне ў Ракаве апынулася больш яркім, відовішчным і, так бы мовіць, першабытным. Напэўна, гэтаму спрыяла і месца правядзення Купалля — старажытнае замчышча, і час — свята доўжылася ўсю ноч, і незабыўная містычная атмасфера, да таго ж узмоцненая надзвычай вялікай поўняй (адметна, што менавіта ў гэтую ноч Месяц знаходзіўся на максімальна блізкай адлегласці ад зямлі). Больш за тое, усе асноўныя элементы свята былі захаваныя. Гэта і завіванне вянкоў, і агульнае шэсце па мястэчку, і распальванне купальскага вогнішча, і карагоды, танцы, песні, скокі праз вогнішча, а таксама сустрэча сонца, якая адбылася зранку. Кожны ўдзельнік свята нават пакаштаваў сімвалічнай купальскай вячэры — каб былі сілы на скокі. Яшчэ больш яркім і відовішчным свята зрабіла сучаснае fire-show. Не канон! — скажаце вы. Але ж гэта свята агню, таму, думаецца, і новы варыянт яго ўслаўлення таксама мае права прысутнічаць на Купаллі.

За выдатную падрыхтоўку свята і незабыўную атмасферу Купалля можна толькі падзякаваць Ракаўскаму цэнтру фальклору, фальклорнаму гурту «Гасцінец», а таксама мінскаму гурту дударскай музыкі і этнічных спеваў «Ветах».

# Нясвіжскае натхненне

**Нягледзячы на спякотнае надвор'е, сёлетнія «Вечары Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў» сабралі ў палацава-паркавым комплексе «Нясвіж» тысячы прыхільнікаў высокага мастацтва. Дзякуючы цікаўнасці гледачоў і насычанай творчай праграме «Вечароў» гарачы беларускі чэрвень набыў яшчэ больш высокі эмацыянальны градус.**

**Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ**

Фестываль опернага і балетнага мастацтва «Вечары Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў» ужо чацвёрты год запар ладзяць Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь і Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік «Нясвіж». Са з'яўленнем гэтага творчага праекта ў беларускай культурнай прасторы канчаткова зацвердзілася традыцыя летніх музычных фестываляў на вольным паветры. І «Вечары Вялікага тэатра» сталі своеасаблівым «флагманам» гэтага open-air-руху. Па-першае, дзякуючы месцу правядзення: Нясвіж з'яўляецца адным з самых буйных цэнтраў развіцця беларускай культуры, менавіта тут нараджаліся айчынныя опера і балет, сімфанічная музыка і ўвогуле прафесійны тэатр. Па-другое, дзякуючы творчай канцэпцыі, якую яшчэ ў 2010 годзе акрэсліў Вялікі тэатр і ў межах якой абавязкова прадстаўляе ў Нясвіжы творы нацыянальных аўтараў і свае апошнія прэм'еры. Такім чынам публіка мае магчымасць напрыканцы тэатральнага сезона ўбачыць у «канцэнтраваным» выглядзе ўсё самае цікавае, што з'явілася ў рэпертуары галоўнага тэатра краіны за апошні час, а таксама скласці ўласнае меркаванне пра нашае месца ў еўрапейскай культурнай «сістэме каардынат».

Пачэснае права адкрываць сёлетні фестываль выпала струннаму квінтэту «Серэнада» і салістам оперы Тацияне Трацяк і народнаму артысту Уладзіміру Пятрову, якія «Летнім вечарам» (такую назву атрымала музычная праграма) прадставілі ў адной з самых прыгожых залаў замка — Тэатральнай — лепшыя творы са свайго багатага рэпертуару. Таксама 21 чэрвеня ў самую кароткую, «белую», ноч года артысты балетнай трупы прадставілі ў Нясвіжскім палацы знакамітыя спектакль «Лебядзінае возера» Пятра Чайкоўскага, які даў старт творчай праграме на вялікай сцэне на ўнутраным двары замка.

Асобнае месца ў штогадовай праграме фестывалю опернага і балетнага мастацтва займае беларуская музыка рэлігійнага зместу. «Курыруе» гэты напрамак творчай праграмы «Вечароў» заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь, рэжысёр, мастацкі кіраўнік творчага калектыву «Беларуская Капэла» Віктар Скарабагатаў. У гэтым годзе разам з галоўным хормайстрам Вялікага тэатра народнай артысткай Нінай Ламановіч яны падрыхтавалі канцэрт з твораў беларускіх кампазітараў-рамантыкаў XIX стагоддзя: Станіслава Манюшкі, Антонія Радзівіла, Яна Давіда Голанда, Канстанцына Горскага, Міхала Ельскага... У музычнай праграме, якая была прадстаўлена ў знакамітым нясвіжскім Касцёле Божага Цела, узялі ўдзел артысты хору і аркестра тэатра, а таксама саліcты Наталля Акініна, Сяргей Лазарэвіч, Віктар Мендзялеў, Дыяна Трыфанава.

Пасля вяртання беларускіх артыстаў у Мінск Віктар Скарабагатаў падзяліўся ўражаннямі ад канцэрта і планамі на наступны год: «Сёлета яблыку не было дзе ўпасці — людзі сталі ў праходах і нават сядзелі на хорах. Рэакцыя публікі была надзвычай станоўчай, і можна казаць пра феерычны поспех гэтай праграмы. У выхадныя дні ў Нясвіжы заўсёды шмат турыстаў, якія абавязкова наведваюць Касцёл Божага Цела і яго крыпту. Некаторыя з гасцей горада, пачуўшы нашу рэпетыцыю, затрымліваліся і замест экскурсіі слухалі музыку. У мінулыя гады мы звярталіся да музыкі эпохі барока, класіцызму, у гэты раз — да раматычнай традыцыі, а ў наступным годзе абавязкова будзем выконваць творы Станіслава Манюшкі, з дня нараджэння якога, дарэчы, у 2014-м споўніцца 195 год. Гэтае рашэнне напрошваецца само: кампазітар 18 год працаваў арганістам у касцёле, вядома ж, у яго шмат твораў адпаведнай тэматыкі. Адну з яго мес мы і падрыхтуем, каб адзначыць юбілей аўтара і падтрымаць добрую традыцыю выканання беларускай музыкі на «Вечарах Вялікага тэатра». Калі наведваеш Нясвіж, немагчыма не адчуць асаблівую атмасферу гэтага месца. Тут адразу разумееш, што знаходзішся ў сакральным, намоленым месцы. У Нясвіжы, як нідзе, адчуваеш повязь часоў».

Беларуская праграма фестывалю прадоўжылася нацыянальнай операй «Сівая легенда» Дзмітрыя Смольскага на лібрэта Уладзіміра Караткевіча — галоўнай прэм'ерай 80-га тэатральнага сезона. Паводле галоўнага рэжысёра тэатра Міхаіла Панджавідзэ, «выязная» гастрольная рэдакцыя спектакля набыла новае гучанне, якога не было ў стацыянарнай тэатральнай версіі. Спектакль прайшоў у сапраўдных гістарычных дэкарацыях і адкрыў новыя сэнсы твора Уладзіміра Караткевіча.

У завяршэнне чацвёртага фестывалю опернага і балетнага мастацтва у Нясвіжы былі прадстаўлены камічная опера Гаэтана Даніцэці «Рыта, альбо Піраці трохвугольнік» і грандыёзны гала-канцэрт зорак Вялікага тэатра Беларусі, які павінен быў доўжыцца больш як тры гадзіны. На жаль, з-за моцнага і працяглага летняга дажджу канцэрт вырашана было скараціць, што крыху сапсавала настрой, аднак не змагло істотна паўплываць на агульную ўзрушаную атмасферу свята, а толькі падагрэла нецярпенне аматараў мастацтва і дазволіла з вялікай надзеяй чакаць наступных, юбілейных «Вечароў Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў», якія з часам, як спадзяецца кіраўніцтва тэатра, могуць набыць статус міжнародных.


Фота Дар'і Казак
Марына Вежнавец.


Фота Антона Цацкі
Канстанцін Геронік (Блазан). «Лебядзінае возера».

## Арт-карагод

Да 7 ліпеня «Рэспубліканская мастацкая галерэя» запрашае ўсіх прыхільнікаў жывапісу наведаць адразу некалькі выставак шэрагу мастакоў. «Паэзія паўсядзённасці» Яўгена Каробушкіна — аўтарскі гімн навакольнаму свету, адлюстраваны на палотнах у хвалях колеру, святла і фарбаў. Валянцін Нудноў у сваіх творах дзеліцца ўражаннямі ад падзей канкрэтнага адрэзка часу і прасторы. Фарматам выяўлення з'яўляюцца складаныя прасторава-сэнсавыя структуры з простых геаметрычных цел. Нястомны мастацкі пошук і творчае гарэнне вызначаюць творчасць Пятра Паршына. Гэта не толькі высокія парывы душы і прага новага, але і канцэнтрацыя розуму, пачуццяў, гармонія душэўных сіл і ведаў таленавітага педагога і мастака. Пластыку Юрыя Анушкі цяжка ўпісаць у кантэкст беларускай скульптуры, асабліва манументальнай. Яна самабытная. У вобразах аўтара жыве архаіка, якая выцясняе ўплыў абязлічаных стандартаў сучаснага свету, паскораны рытм медыйных сістэм, што ўвайшлі ў сучаснае мастацтва.

Выстаўка жывапісу Івана Сямілетава «Сапраўдная гісторыя» праходзіць да 2 ліпеня ў «Галерэі мастацтва». Мастак не баіцца зазірнуць у сябе, даследуючы ўсё мноства ўласных адлюстраванняў і варыянтаў рэчаіснасці, запрашае гледача ў шматмерныя прасторы памяці ды ўяўлення і з паэтычнай шчырасцю распавядае гісторыю ўласнай душы. І. Сямілетаў стварае «сапраўдную» рэальнасць, дзе паняцці чалавека і свету, прасторы і часу — аднолькавыя. Разнявольваючы фантазію, творца выкарыстоўвае неардынарныя формы, знаходзіць асаблівую палітру і каляровую гармонію, каб перадаць настрой кожнай працы.

Вернісаж другой выстаўкі мастацкага праекта «Краявіды зямлі беларускай: Класікі беларускага жывапісу з прыватных збораў» адбываецца да 2 ліпеня ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. Першая выстаўка праекта прайшла ў лістападзе 2012 года. Як і летась, аматары жывапісу і прыхільнікі беларускай культуры маюць магчымасць ацаніць творчую спадчыну мастакоў-суайчыннікаў Барыса Аракчэева, Івана Ахрэмчыка, Антона Бархаткова, Ібрагіма Гембіцкага, Мікалая Дучыцы, Валяр'яны Жолтак, Аляксандра Казлоўскага ды іншых. Цудоўныя палотны мастакоў, прысвечаныя роднай зямлі, у межах праекта прэзентуюць прыватныя калекцыянеры. Падчас вернісажу гучаць вершы Янкі Купалы і музычныя кампазіцыі на яго словы.

Сёння, 28 чэрвеня, у двары Радзівілаўскага замка ў межах арт-фэсту «Тэатр Уршулі Радзівіл» адбудзецца паказ спектакля «Яблычны пірог» (пастаноўка Дзяніса Нупрэйчыка) Новага драматычнага тэатра. Гэта пранізлівая гісторыя пра здраду і любоў, увасобленая на сцэне Надзеяй Анцыповіч, Ігарам Падлівальчавым, Аксанай Барчэўскай, Валерыем Агаянам ды іншымі выдатнымі акцёрамі.

**Таццяна ШЫМУК**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»
Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3000 рублёў
Наклад — 2726
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 27.06.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 2455
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686